Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 29 лістапада 1985 г. № 48 (3302) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

# ВОСЕНІ СТРУНЫ ПЯВУЧЫЯ




ЗАЎТРА, 30 лістапада, прагучаць заключныя акорды «Беларускай музычнай восені». Заўтра — урачыстае закрыццё гэтага традыцыйнага Усесаюзнага фестывалю: у Дзяржаўным тэатры музкамедыі БССР адбудзецца канцэрт майстроў мастацтваў. Выступяць у ім пасланцы Расіі, Украіны, Прыбалтыкі, Малдавіі, Сярэдняй Азіі, Закаўказзя, беларускія артысты... Зразумела, праграма заключнага канцэрта яшчэ ўдакладняецца. Гэта ж вельмі няпроста: за адзін вечар прадставіць жанравую, стылявую, «геаграфічную» нават, шматстайнасць галасоў і фарбаў фестывалю! І ўжо зусім няпроста — вызначыць таропкім газетным словам усе тыя «галасы» і «фарбы», адметнасць музычнай палітры «Восені».

Сёлетняя (ужо дванаццатая) «Беларуская музычная восень» праведзена пад знакам творчай справаздачы майстроў мастацтваў напярэдадні XXVII з'езда КПСС. Аркестры, танцавальныя і харавыя калектывы, эстрадныя ансамблі, салісты-спевакі, музыканты-інструменталісты, дырыжоры, чытальнікі выступалі перад самай рознай і ў поўным сэнсе слова масавай аўдыторыяй. На дзесяць фестывальных дзён у канцэртную залу ператварылася ўся рэспубліка. І, відавочна, было б памылкай сказаць, што цэнтр фестывалю, як у ранейшыя гады, засяродзіўся ў Мінску. Наадварот. Мінчане маглі нават пазайздросціць слухачам, гледачам розных раёнаў Беларусі.

Дзяржаўны акадэмічны рускі хор СССР, напрыклад, пачаў маршрут з Полацка (славуты калектыў спяваў у канцэртнай зале Сафійскага сабора), Літоўскі камерны аркестр — з Віцебска. Ансамбль народнага танца Паўночнай Асеціі «Алан» выступаў на Магілёўшчыне, на Гомельшчыне. Гамяльчане першымі віталі і яркае самабытнае мастацтва малдаўскіх танцораў ансамбля «Жок». З Гродна прыходзілі весткі пра поспех Акадэмічнага аркестра казахскіх народных інструментаў... Большасць беларускіх

(Заканчэнне на стар. 2—3).



Хлеб-соль — удзельнікам фестывалю. Дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага аркестра казахскіх народных інструментаў, народны артыст Казахскай ССР А. Мурзабекаў (справа), мастацкі кіраўнік Мінскага камернага аркестра, лаўрэат Усесаюзнага і Міжнароднага конкурсаў І. Галаўчын (у цэнтры) і намеснік начальніка Гродзенскага абласнога ўпраўлення культуры В. Губіч.



Артысты Дзяржаўнага ансамбля народнага танца Паўночна-Асецінскай АССР «Алан» гутараць з удзельнікамі мастацкай самадзейнасці Магілёва.

## У САЮЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

# ПІСЬМЕННІК НА РАДЫЁ І ТЭЛЕБАЧАННІ

### СА СХОДУ СЕКЦЫІ ДЗІЦЯЧАЙ І ЮНАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

«ПІСЬМЕННІК на радыё і тэлебачанні» — такая тэма гаворкі на чарговым сходзе секцыі дзіцячай і юнацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў рэспублікі была абрана не выпадкова. У наш час, як ніколі, бадай, раней, узрастае значэнне і роля мастацкага слова — аднаго з дзейсных сродкаў у справе выхавання падрастаючага пакалення. Асабліва так званага слова жывога, якое гучыць непасрэдна з вуснаў літаратараў, а радыё і тэлебачанне ў гэтым сэнсе адразу можа сабраць шматмільённую аўдыторыю. Таму важна, каб мікрафон заўсёды выкарыстоўваўся з поспехам. А дзеля гэтага неабходна, каб кожная перадача, у якой прымае ўдзел пісьменнік, кожнае яго публіцыстычнае выступленне праходзілі на высокім ідэйна-мастацкім узроўні, знаходзілі чуйны водгук у душах юных слухачоў і гледачоў.

Што ж зроблена ў гэтым кірунку? Што патрэбна зрабіць, каб і надалей радыё і тэлебачанне не проста прапагандавалі пэўныя творы літаратуры ці творчасць асобных аўтараў, а задачы сацыяльна-грамадзянскага і маральна-эстэтычнага выхавання падрастаючага пакалення разглядалі комплексна, памятаючы, што зерне добрага, вечнага можа даць усходы толькі тады, калі будзе дбайна пасеяна ў дзіцячых душах? На гэтыя і іншыя пытанні паспрабавалі даць адказ удзельнікі сходу.

Як працуе ў гэтым кірунку рэспубліканскае радыё, расказаў намеснік галоўнага рэдактара галоўнай рэдакцыі вяшчання для дзяцей **Ю. Бокач**, які зазначыў, што хоць выступленне перад мікрафонам спецыфічнае ў сваёй аснове, пісьменнікі ахвотна супрацоўнічаюць з рэдакцыяй. Зразумела, многія матэрыялы паступаюць і самацёкам, але супрацоўнікі прымаюць усе захады для таго, каб разнастаіць іх тэматыку, прыцягнуць патрэбных аўтараў. Немалая ўвага надаецца сацыяльнаму заказу.

Прамоўца назваў асобныя перадачы, што вытрымалі выпрабаванне часам. Не адно пакаленне піянераў выхавалася, знаёмячыся з цыклам «Жывое слова», які вядзе дваццаць тры гады У. Юрэвіч. Былыя вучні пісьменніка, менавіта вучні, падкрэсліў Ю. Бокач, назаўсёды палюбілі родную літаратуру, мастацкае слова, многія сталі выкладчыкамі ў школе, а некаторыя звязалі свой лёс з журналістыкай, працай літаратара.

Палюбілася школьнікам і перадача «Вашы першыя крокі», вядучы якой М. Чарняўскі. Цыкл «Зямля бацькоў нашых» рыхтуе Я. Пархута. Шырокую аўдыторыю збіраюць перадачы «Твая новая кніга», «Школьная радыёхрэстаматыя», «Дзеці братніх рэспублік» і іншыя.

Часта ў эфіры гучаць радыёпастаноўкі па вядомых творах, перадаюцца інсцэніраваныя апавяданні. На жаль, сама радыёдраматургія як жанр пакуль што развіваецца вельмі слаба. Беларускія літаратары амаль не пішуць радыёп'ес, у тым ліку для дзяцей, таму і даводзіцца найчасцей звяртацца да інсцэніровак. Востры дэфіцыт адчувае сучасная казка. Тое ж самае можна сказаць пра піянерскую песню. Відаць, падкрэсліў Ю. Бокач, больш плённа павінен працаваць і савет па радыё і тэлебачанні, які створаны пры секцыі дзіцячай і юнацкай літаратуры.

Актыўна прыцягвае да супрацоўніцтва пісьменнікаў Беларускае тэлебачанне. Інфармацыю па гэтым пытанні зрабіў старшы рэдактар галоўнай рэдакцыі праграм для дзяцей **К. Жук**. Практыкуюцца перадачы з удзелам саміх пісьменнікаў — у асноўным паэтаў, празаікаў. Папулярнымі сталі «Літаратурныя сустрэчы». Гасцямі тэлебачання былі Э. Агняцвет, В. Вітка, С. Шушкевіч, А. Вольскі і іншыя. А колькі радасці прынеслі школьнікам сустрэчы з Р. Барадуліным, па кнігах якога было падрыхтавана некалькі перадач! Трансліравалася і бяседа У. Някляева з вучнямі адной з мінскіх школ.

Прамоўца спыніўся і на іншых перадачах, якія адрасуюцца дзецям рознага ўзросту, пачынаючы ад «чамучак», для якіх гучыць «Калыханка», да школьнікаў малодшых класаў. Як і Ю. Бокач, К. Жук выказаў трывогу, што ў перадачах неахвотна прымаюць удзел сталыя, вопытныя літаратары, якім ёсць што сказаць сённяшнім акселератам, пісьменнікі, якія добра ведаюць паўсядзённае жыццё.

На тэлебачанні, як і на радыё, востра стаіць праблема арыгінальных сцэнарыяў, напісаных літаратарамі. Для стварэння інсцэніровак прыцягваюцца і журналісты, і маладыя пісьменнікі, але патрэбны сцэнарыі, пазначаныя смеласцю аўтарскага пошуку, важнасцю ўзнятых пытанняў.

**У. Машкоў**, які прадоўжыў гаворку, таксама спаслаўся на шэраг канкрэтных перадач, тых, што ў свой час прагучалі найперш па радыё, паколькі і сам у свой час там працаваў. Адзначыўшы несумненныя набыткі, гаварыў і аб праблемах, якія патрабуюць вырашэння. Варта павышаць не толькі ідэйна-мастацкі ўзровень саміх твораў, але і прафесійнае майстэрства акцёраў і рэжысёраў, якое пакуль што на радыё вышэйшае, чым на тэлебачанні.

На думку **М. Чарняўскага**, найбольшая карысць ад радыёперадач, у якіх прымаюць удзел самі пісьменнікі. Жывы голас дзецьмі ўспрымаецца шчыра і непасрэдна, мае большы рэзананс. Безумоўна, супрацоўнічанне з радыё адбірае нямала творчага часу, але ім варта ахвяраваць, бо адкрываецца магчымасць адразу гутарыць з вялікай аўдыторыяй.

**У. Юрэвіч**, наадварот, выказаў думку, што пісьменніку не трэба спяшацца да мікрафона, паколькі далёка не кожны можа адразу настроіцца на своеасаблівую кароткую дыстанцыю са слухачом. Свае цяжкасці і ў тых, хто выступае па тэлебачанні, на радыё яшчэ тэкст можна запомніць, але калі ён завучаны ў тэлевізійнай перадачы, завучаны, а не пераплаўлены ў сабе, гэта адразу заўважаецца. Трэба, падкрэсліў У. Юрэвіч, каб кожная фраза даходзіла да слухача, каб яна па-свойму прыадкрывала сакрэты творчасці. Варта так расказваць, як пісаць, толькі тады будзе карысць ад выступлення літаратара.

Пэўныя аспекты супрацоўніцтва пісьменніка з радыё і тэлебачаннем, спасылаючыся на канкрэтныя перадачы, закранулі ў сваіх выступленнях супрацоўнік Інстытута заалогіі Акадэміі навук БССР **Э. Самусенка, І. Грамовіч**, рэдактар тэлебачання, адказны за выпуск «Калыханкі» **Л. Качанка, Э. Агняцвет**, галоўны рэдактар галоўнай рэдакцыі вяшчання для дзяцей **Т. Жумар**. Яны гаварылі аб тым, што неабходна разнастаіць перадачы для дзяцей, імкнуцца выкарыстоўваць арыгінальныя сцэнарыі. Магчыма, варта падумаць і аб тым, каб увесці новыя цыклы. Напрыклад, наспеў час на тэлебачанні рыхтаваць перадачы «Дзіцячая кнігарня», тым больш, што радыё даўно і рэгулярна знаёміць з кніжнымі навінкамі.

Паасобныя з удзельнікаў абмеркавання гаварылі аб неабходнасці пры падрыхтоўцы тэлевізійных перадач больш вучыцца ў маскоўскіх калег. Канечне, творчая вучоба заўсёды прынясе жаданы плён, але менавіта вучоба, а не пераймальніцтва. У сувязі з гэтым **П. Місько** вылучыў тры — на яго думку — праблемы, якія неабходна вырашыць як мага хутчэй, каб перадачы тыпу «Калыханка» карысталіся не толькі папулярнасцю, але і мелі свой мастацкі твар. Па-першае, у аснову перадач трэба класці сцэнарыі, напісаныя аўтарамі, якія добра ведаюць спецыфіку тэлебачання. Па-другое, трэба ствараць адпаведныя вобразы лялек, надаючы адначасова ўвасабленню іх адпаведнае сцэнарнае вырашэнне і гукавую афарбоўку. І, нарэшце, патрэбны вядучыя, якія могуць жыва, непасрэдна весці гаворку з экрана.

Нельга капіраваць нават тое, што ў іншых выглядае няблага. Там, дзе простае перайманне, непазбежны правінцыялізм. На гэтым засяродзіў увагу **В. Вітка**. Магчыма, сказваецца тое, што ў тэлебачання пакуль што «кароткая памяць», у яго меншы вопыт, чым у радыё. Адсюль — паўтарэнне і асобных сюжэтных хадоў, аднойчы абраных, на беларускім матэрыяле, і паўтарэнне вобразаў герояў. А ў нас жа, падкрэсліў В. Вітка, такі багаты фальклор, з яго і трэба браць герояў для дзіцячых перадач. І, вядома, больш дбаць аб падрыхтоўцы акцёраў-чытальнікаў.

У размове прыняў удзел сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР **Б. Сачанка**. У апошні час, заўважыў ён, часта ідзе гаворка аб тым, што зніжаюцца тыражы кніг, тым самым памяншаецца колькасць людзей, якія далучаюцца да пісьменніцкага слова. Трэба выкарыстоўваць шырокія магчымасці, якія перад кожным літаратарам адкрываюць радыё і тэлебачанне, што збіраюць шматмільённую слухацкую і глядацкую аўдыторыю. Сёння гэтай трыбунай, зразумела, карыстаюцца многія. Але, як зазначыў прамоўца, пры жаданні можна многае зрабіць лепш.

Старшыня бюро секцыі **А. Вольскі**, які вёў пасяджэнне, адзначыў плённасць гаворкі і падкрэсліў, што толькі агульнымі намаганнямі пісьменнікаў і журналістаў радыё і тэлебачанне могуць дамагчыся яшчэ большага поспеху ў прапагандзе беларускай літаратуры.

**НАШ КАР.**

---

мерны рэпертуар (айчынная рамансавая класіка, творы заходнееўрапейскіх кампазітараў) адпавядаў рознабаковым вакальным магчымасцям Л. Колас. А дзівосная акустыка старажытнага будынка! Тут пачуеш і ацэніш тонкае, як сцішанае трапяткое дыханне, піяна, і «салаўіную чысціню» віртуозных рулад...

НА ТОЙ ЧАС, як друкаваліся гэтыя радкі, як вярстаўся чарговы нумар «ЛіМа», ленінградскія музыканты сустракаліся з калектывам МАЗа; у кансерваторыі рыхтаваліся прыняць народнага артыста СССР Саулюса Сандэцкіса; Акадэмічны сімфанічны аркестр БССР выязджаў з Мінска да вяскоўцаў; у кіназале Мінскага Дома афіцэраў іграў цымбаліст Аляксандр Лявончык... Адбываліся новыя сустрэчы ўдзельнікаў фестывалю са слухачамі Беларусі — у розных яе кутках. Ну а заўтра — заўтра паўпрэды мастацтва саюзных рэспублік збяруцца разам у вялікім заключным канцэрце.

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

Фота карэспандэнтаў БЕЛТА.

---

## ПРАЦЯГ КАНТАКТАЎ

Амерыканскія літаратары знаёмяцца з экспазіцыяй музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.
Фота Ул. КРУКА.

**Усё прагрэсіўнае чалавецтва ў гэтыя дні знаходзіцца пад уражаннем жэнеўскіх перагавораў Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова з прэзідэнтам ЗША Р. Рэйганам, звязаных з расшырэннем двухбаковых адносін паміж Савецкім Саюзам і Злучанымі Штатамі Амерыкі. Тым больш сімвалічна, што менавіта ў гэты час прайшла чарговая, сёмая традыцыйная сустрэча савецкіх і амерыканскіх пісьменнікаў.**

**Як вядома, пачатак гэтым кантактам быў пакладзены ў 1977 годзе як канкрэтны водгук на Заключны акт Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, падпісаны ў Хельсінкі. З таго часу і адбываюцца сустрэчы па чарзе ў СССР і ЗША. На гэты раз пасля Масквы, Батумі і Кіева гонар прымаць амерыканскіх пісьменнікаў выпаў сталіцы братняй Літвы Вільнюсу, куды прыехала прадстаўнічая дэлегацыя ў складзе Л. Ачынклоса, А. Гінсберга, У. Гэдзіса, У. Гэса, С. Дрэйка, Н. Казінса, Д. Лоўрэнса, А. Мілера, Г. Солсберы, Ч. Фулера і Н. Янга.**

**У Палацы работнікаў мастацтваў горада Вільнюса адбылося пасяджэнне «круглага стала», у якім прынялі ўдзел госці, а таксама вядомыя савецкія пісьменнікі.**

**Пасля Вільнюса амерыканскія літаратары наведалі Беларусь. Госці пабывалі ў Хатыні і Дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, сустрэліся з кіраўніцтвам Саюза пісьменнікаў БССР, паглядзелі мастацкі фільм «Ідзі і глядзі».**

---

## РАПАРТУЕ «ЮНАЦТВА»

**Выдавецтва «Юнацтва» адным з першых у рэспубліцы датэрмінова выканала заданне адзінаццатай пяцігодкі па выпуску дзіцячай і юнацкай літаратуры. За пяць гадоў яго існавання ўбачыла свет 671 назва кніг і брашур агульным тыражом звыш 53 мільёнаў экземпляраў. Нагадаем, што за гады папярэдняй, дзесятай пяцігодкі, выдавецтвамі рэспублікі для падрастаючага пакалення выпушчана 569 назваў тыражом 45 мільёнаў экземпляраў.**

**Юны чытач атрымаў яркую, з густам ілюстраваную мастацкую літаратуру, навукова-папулярную літаратуру, кніжкі-цацкі.**

**Сярод аўтараў «Юнацтва» — вядомыя беларускія празаікі, паэты, драматургі М. Танк, І. Шамякін, В. Быкаў, Я. Брыль, П. Панчанка, В. Вітка, В. Зуёнак, Р. Барадулін, А. Грачанікаў, В. Казько, А. Дудараў і многія іншыя.**

**Кнігі выдавецтва на рускай, беларускай і замежных мовах экспартуюцца больш чым у 100 краін свету.**

**В. МАСКАЛЕНКА.**

## ЛІТАРАТУРНЫЯ ЖАНРЫ: СТАН І ПРАБЛЕМЫ

# МАСТАЦКІ ПЕРАКЛАД: учора, сёння... а заўтра?

**Праглядаю «Хроніку перакладных выданняў», якая штогод публікуецца ў альманаху «Далягляды». Праглядаю і раблю параўнанні. Кідаецца ў вочы прыкметнае павелічэнне колькасці выданняў замежнай літаратуры на беларускай мове за апошнія 12—15 гадоў. Калі ў 1970 годзе выдавецтвам «Беларусь» былі выпушчаны тры кніжкі замежных аўтараў, дык у наступным годзе іх было пяць, у 1974 годзе — восем, а ў 1981—1984 гадах — у сярэднім каля дваццаці такіх кніг штогод. Творы майстроў замежнай паэзіі і прозы выдаюцца цяпер у двух рэспубліканскіх выдавецтвах — у «Мастацкай літаратуры» і ў «Юнацтве». Нельга не сказаць і пра тое, што з 1975 года выходзяць прыгаданыя ўжо «Далягляды», у кожным выпуску якіх друкуюцца пераклады твораў прыкладна двух дзесяткаў аўтараў; з 1982 года альманах спецыялізуецца толькі на літаратуры замежных краін, а перакладчыкі з моў братніх народаў СССР займелі сваю адмысловую трыбуну — літаратурны зборнік «Братэрства».**

**Наш чытач толькі за апошнія дзесяць гадоў атрымаў магчымасць прачытаць на роднай мове вершаваныя творы Ёгана Вольфганга Гётэ і Роберта Бёрнса, Фрыдрыха Шылера і Уолта Уітмена, Федэрыка Гарсія Лоркі і Поля Элюара, Ніколы Вапцарава і Пабла Нэруды... Выдадзены па-беларуску празаічныя творы Баляслава Пруса, Антуана дэ Сэнт-Экзюперы, Ганса Фалады, Яраслава Гашака, Браніслава Нушыча і многіх іншых. Выйшла нямала цікавых анталагічных зборнікаў паэзіі і прозы розных краін. Нашы дзеці атрымалі на роднай мове цікавыя (і якія ж прыгожыя!) падарункі. З іх найперш трэба назваць зборнік нямецкіх народных апавяданняў пра дзівакаватых шыльдбюргераў, зборнік выдатных казак Оскара Уайлда, цудоўную казку-легенду Юрыя Брэзана «Чорны млын»...**

**Высокі ўзровень прафесійнага майстэрства характарызуе вынікі працы нашых майстроў мастацкага перакладу: Юркі Гаўрука і Уладзіміра Дубоўкі, Язэпа Семяжона і Янкі Брыля, Васіля Сёмухі і Ніла Гілевіча, Аляксея Зарыцкага і Рыгора Барадуліна...**

**Поспехі беларускага мастацкага перакладу, асабліва ў апошні час, безумоўныя. Ці даюць яны падставы сцвярджаць, што ў гэтым жанры літаратуры нашыя справы складваюцца добра? Як увогуле можна ахарактарызаваць сённяшні стан перакладчыцкай справы на Беларусі? Пра гэта мы запыталіся ў вядомых і аўтарытэтных нашых перакладчыкаў Аляксея Зарыцкага і Васіля Сёмухі, а таксама ў загадчыка рэдакцыі замежнай літаратуры ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» Валянціна Рабкевіча.**

### Аляксей ЗАРЫЦКІ:

— Беларуская літаратура ў галіне мастацкага перакладу займае адно з апошніх месцаў сярод літаратур братніх саюзных рэспублік. І мне здаецца, што мы яшчэ не пранікліся агульнавядомай ісцінай, што без па-сапраўднаму развітой перакладной літаратуры не могуць па-сапраўднаму развівацца арыгінальная літаратура і літаратурная мова.

### Васіль СЁМУХА:

— Якасна нашы пераклады, безумоўна, не саступаюць перакладам іншых народаў, а некаторыя зроблены на ўзроўні найвышэйшых дасягненняў гэтага віду творчасці наогул. Але калі гаварыць пра колькасць перакладаў, дык яна, вядома, недастатковая.

### Валянцін РАБКЕВІЧ:

— Перакладной літаратуры ў нас выдаецца мала. Праўда, з мэтай паляпшэння перакладчыцкай справы ў нас ужо зроблены першыя добрыя крокі. Штогод у план нашага выдавецтва ўключаецца 14—15 назваў выданняў замежнай літаратуры на беларускай мове. З нядаўняга часу мы маем спецыяльную рэдакцыю, дзе, аднак, працуюць толькі чатыры чалавекі, і на сённяшні дзень мы ў прынцыпе выдаваць больш, чым тыя 14—15 кніжак, не можам. Дый перакладаў да нас прыходзіць не надта многа, і не заўсёды яны якасныя.

**Такім чынам, 14 ці 15 кніг замежных аўтараў, якія штогод рыхтуе «Мастацкая літаратура», плюс шэсць-сем такіх выданняў, што выходзяць у «Юнацтве», — гэта тое, на што можа сёння (і ў бліжэйшыя наступныя гады) разлічваць беларускі чытач. Многа гэта ці мала? Ці ёсць, сапраўды, падставы гаварыць, што сярод братніх саюзных рэспублік наша нацыянальная літаратура ў галіне мастацкага перакладу займае адно з апошніх месцаў?**

**Спашлёмся на лічбы. У 1981—1982 гадах з друку выйшла 38 выданняў замежнай літаратуры на беларускай мове. У гэты самы час, паводле звестак з «Кніжнага летапісу», выйшлі 124 такія выданні на ўкраінскай, 86 — на літоўскай, 75 — на латышскай мовах. Акрамя таго, шмат выданняў у нашых бліжэйшых суседзяў аб'ёмам намнога перавышаюць беларускія: пад адной вокладкай там нярэдка друкуюцца два-тры вялікія раманы. Сярод гэтых выданняў, напрыклад, чарговыя тамы дванаццацітомнага Збору твораў Бальзака на латышскай мове, сорак першы том вялікай серыі «Вяршыні сусветнай літаратуры», якая выдаецца па-ўкраінску. Прыведзеныя тут лічбы не ўключаюць перакладныя перыядычныя выданні (напрыклад, шырокавядомы ўкраінскі «Всесвіт»).**

**Болей, чым у нас на Беларусі, кніг замежных аўтараў на нацыянальных мовах выходзіць таксама ў Арменіі, Эстоніі, Грузіі, Малдавіі, ва Узбекістане.**

**Вядома, нашаму чытачу дапамагае тое, што ён умее чытаць па-руску і мае магчымасць гэткім чынам пазнаёміцца са шмат якімі творамі замежнай літаратуры. Толькі ж, як ужо адзначаў вышэй Аляксей Зарыцкі, развіццё мастацкага перакладу вельмі цесна звязана з развіццём нацыянальнай літаратуры і літаратурнай мовы. Ніхто не будзе пярэчыць, што інтэнсіўнае знаёмства з найлепшымі здабыткамі заходнееўрапейскіх і іншых літаратур дало магчымасць рускай літаратуры ў свой час хутка выйсці на перадавыя пазіцыі ў свеце. Можна прыгадаць і тое, што вялікі Пушкін вельмі добра разумеў важнасць набліжэння шэдэўраў еўрапейскіх літаратур да рускага чалавека і сам меў даволі вялікі перакладчыцкі даробак. А нам, беларусам, здавалася б, вельмі красамоўны прыклад далі яшчэ Дунін-Марцінкевіч, а пазней Купала і Багдановіч, якія ўсведамлялі патрэбнасць развіцця беларускага мастацкага перакладу і самі заклалі падмурак вялікага будынка... Але мы зноў звяртаемся да нашых ранейшых суразмоўнікаў.**

### Валянцін РАБКЕВІЧ:

— Апошнім часам наш атрад перакладчыкаў павялічыўся. Даволі ўпэўнена выступілі ў друку маладыя: Зміцер Колас, Сяргей Шупа, Фелікс Баторын, Алесь Міхальчук, Алесь Істомін, Сяргей Мурашка і іншыя. Актывізавалі сваю працу больш вопытныя Уладзімір Папковіч, Леанід Казыра, Іван Чарота... Прыток свежых сіл, безумоўна, цешыць, але ён усё ж малалікі. Тут ёсць шмат прычын. Напрыклад, у Мінскім інстытуце замежных моў, які мог бы стаць сапраўднай кузняй перакладчыцкіх кадраў, спецыяльна не вывучаецца беларуская мова...

Яшчэ адна праблема. Наша літаратурная крытыка чамусьці вельмі рэдка заўважае тыя перакладныя кнігі, што выходзяць у нашых выдавецтвах. На пальцах адной рукі можна пералічыць рэцэнзіі на такія кнігі на старонках нашай перыёдыкі. Ні друк, ні кнігагандлёвыя арганізацыі не займаюцца рэкламай «Даляглядаў» ці то беларускіх выданняў замежнай паэзіі і прозы.

Нарэшце, ёсць яшчэ адно нявырашанае пытанне, пра якое трэба гаварыць асобна. Даўно наспела патрэба ў выданні іншамоўна-беларускіх і беларуска-іншамоўных слоўнікаў. І гэтыя слоўнікі вельмі патрэбны нашым перакладчыкам, і не толькі, дарэчы, ім.

### Васіль СЕМУХА:

— Я б хацеў сказаць вось пра што. Нашым маладым перакладчыкам, па сутнасці, няма дзе сур'ёзна вучыцца. Штогод беларуская творчая моладзь сустракаецца на семінары ў Каралішчавічах, але ж секцыі мастацкага перакладу там няма. Дый наш інстытут замежных моў мог бы праявіць больш ініцыятывы ў гэтай важнай для беларускай культуры справе. Думаю, што шмат хто з нашых перакладчыкаў быў бы гатовы яму ў гэтым дапамагчы.

Ці патрэбны нам двухмоўныя слоўнікі? Няма чаго і пытацца. Такія слоўнікі трэба выдаваць і перавыдаваць. Слоўнікі — гэта ці не ў першую чаргу паказчык культуры народа. Не кажу ўжо, што слоўнік — аснова вывучэння мовы.

Вядома, калі гаварыць пра праблему «слоўнік — пераклад», дык тут, на маю думку, усё не так элементарна проста. Пераклад — справа творчая, і не ўсё тут залежыць ад таго, ёсць у нас двухмоўныя слоўнікі ці не. Але ва ўсякім разе такія слоўнікі дапамагалі б вельмі добра ў працэсе вывучэння як замежнай, так і роднай мовы і спрыялі б абуджэнню ў моладзі цікавасці да справы мастацкага перакладу.

### Аляксей ЗАРЫЦКІ:

— Цяжкасці развіцця беларускага мастацкага перакладу звязаны з многімі прычынамі, але асноўнымі, на маю думку, з'яўляюцца наступныя.

Па-першае, гэта — слабая прапаганда і заахвочванне таго, што ўжо зроблена ў гэтай галіне. Я пакуль штосьці амаль не сустрэў у нашым рэспубліканскім друку — і тым больш ва ўсесаюзным — грунтоўных выказванняў нашых вядучых пісьменнікаў і крытыкаў нават пра такія выдатныя з'явы, як таленавіты пераклад на беларускую мову гётэўскага «Фаўста», выкананы Васілём Сёмухам, альбо пераклад трагедыі Шэкспіра «Гамлет», зроблены Юркам Гаўруком...

Па-другое, перавыдаць пераклад, хай сабе выдатнага твора, у нас нялёгка; падобныя перавыданні на Беларусі — рэдкая з'ява. А мастацкі пераклад жыве паўнакроўным жыццём толькі тады, калі ён перавыдаецца. Некаторыя кажуць (гэта нават прабілася на старонкі «Литературной газеты»), што на беларускія пераклады замежнай літаратуры, маўляў, няма попыту. Няпраўда. Добры пераклад добрага твора заўсёды добра разыходзіцца. Разышоўся ж беларускі пераклад «Фаўста», выдадзены ў 1976 годзе, за некалькі дзён, і ўжо даўно наспела пытанне аб другім выданні. Тое самае можна сказаць і пра шмат якія іншыя нашы пераклады. Я ўпэўнены таксама, што чытач ахвотна купіць і прачытае па-беларуску не толькі творы сусветнай класікі, але і шмат якія іншыя кнігі замежных аўтараў, у тым ліку прыгодніцкую, дэтэктыўную літаратуру, навуковую фантастыку і г. д.

І, нарэшце, па-трэцяе. Адсутнасць патрэбных іншамоўна-беларускіх слоўнікаў — яўная і значная перашкода ў перакладчыцкай працы. Выданне такіх слоўнікаў ёсць справа неабходная і неадкладная.

**Здаецца, нашы суразмоўнікі даволі выразна назвалі тое, што стрымлівае развіццё нашага мастацкага перакладу, і нешта істотнае дадаць тут сапраўды цяжка. Для паспяховага вырашэння гэтых праблем, відавочна, патрэбны сумесныя намаганні, зацікаўленасць не толькі творчых і выдавецкіх арганізацый, але і такіх кампетэнтных устаноў, як Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі рэспублікі і інш.**

**Адна з галоўных праблем, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння, бачыцца ў тым, што ў нас дагэтуль не выдадзены неабходныя іншамоўна-беларускія і беларуска-іншамоўныя слоўнікі.**

**Сапраўды, калі не лічыць невялічкага англа-беларускага слоўніка І. Аналовіча, які выйшаў яшчэ ў 1913 годзе ў Вільні і мае цяпер чыста навуковае значэнне, беларускімі выдавецтвамі пасля вайны выпушчаны два выданні «Руска-беларускага слоўніка», «Беларуска-рускі слоўнік» і «Украінска-беларускі слоўнік». У 1962 годзе варшаўскае выдавецтва «Ведза паўшэхна» выдала «Падручны польска-беларускі слоўнік», які, дарэчы, ужо стаў бібліяграфічнай рэдкасцю. Можна ўспомніць яшчэ пра «Англа-беларускі слоўнік фразеалагізмаў параўнальнага тыпу», які сёлета выйшаў у выдавецтве «Вышэйшая школа» тыражом 500 экземпляраў і які таксама імгненна знік з паліц кнігарань.**

**Між тым, пытанне пра неабходнасць выдання беларускіх перакладных слоўнікаў узнімаецца і ў рэдакцыйнай пошце «ЛіМа». Чытачка Н. Шчуко з Мінска, прыкладам, прапануе, каб штотыднёвік выступіў ініцыятарам у яго вырашэнні, бо, на яе думку, «адсутнасць неабходных двухмоўных слоўнікаў — адна з галоўных прычын» цяжкасцей развіцця нашага мастацкага перакладу.**

**Таму мы вырашылі больш падрабязна і сур'ёзна спыніцца менавіта на гэтай праблеме, пашырыўшы, у прыватнасці, кола нашых сённяшніх суразмоўнікаў. Выказаць свае меркаванні пра неабходнасць выдання ў нас перакладных слоўнікаў мы папрасілі таксама галоўных рэдактараў нашых перакладных альманахаў «Братэрства» і «Далягляды» Рыгора Барадуліна і Анатоля Вярцінскага і аднаго з найбольш аўтарытэтных беларускіх перакладчыкаў Язэпа Семяжона.**

### Рыгор БАРАДУЛІН:

— Пытанне аб выданні слоўнікаў — гэта пытанне аб нашай культуры. І вырашаць яго трэба тэрмінова. Мне вядома, што існуе падрыхтаваны У. Марцінеўскім «Нямецка-беларускі слоўнік», але чамусьці выдаваць яго ніхто ў нас не бярэцца. Перакладных слоўнікаў даўно чакаюць нашы перакладчыкі, філолагі, выкладчыкі, студэнты... Без іх, а таксама без падручнікаў беларускай мовы, напрыклад, на аснове англійскай, вельмі цяжка вывучаць родную мову нашым суайчыннікам за мяжой: пра гэта мне не раз казалі яны самі, калі даводзілася бываць у замежных паездках.

### Анатоль ВЯРЦІНСКІ:

— Прыгадваю, якую добрую службу служаць тыя слоўнікі, што ў нас ёсць, у прыватнасці, падручны польска-беларускі. І па кантрасце з гэтым фактам асабліва адчуваю неабходнасць выдання аналагічных слоўнікаў: англа-, французска-, нямецка-, іспанска-беларускіх, балгарска-беларускага і г. д. І справа тут не толькі ў тым, што такія слоўнікі патрэбны як інструмент, як падручны сродак у справе мастацкага перакладу, хоць сапраўды тут без іх абыходзіцца цяжка: сам працэс далейшага развіцця нашай мовы, літаратуры, культуры ў цэлым лагічна вымагае стварэння і выдання іншамоўна-беларускіх і беларуска-іншамоўных слоўнікаў. Як выданне Беларускай Савецкай Энцыклапедыі ў свой час было зафіксавана ў ЮНЕСКО як адзін з паказчыкаў культурнага развіцця рэспублікі, гэтак і факт выдання беларускіх двухмоўных слоўнікаў будзе сведчыць яшчэ аб адным кроку нацыі наперад у кантэксце сусветнай культуры. Будзем тут, апрача ўсяго, памятаць, што рэспубліка наша з'яўляецца членам ААН і шэрагу яе спецыялізаваных устаноў накшталт ЮНЕСКО.

І яшчэ. Выданне беларускіх перакладных слоўнікаў рознага тыпу спрыяла б, безумоўна, прытоку маладых перакладчыцкіх сіл.

Шчаслівую магчымасць глыбей пазнаёміцца з духоўным багаццем брацкага славенскага народа, з творчымі дасягненнямі яго музыкантаў, літаратараў, мастакоў, майстроў сцэны і экрана падораць нам Дні культуры Славеніі ў Беларускай ССР. Яны пройдуць з 5 па 10 снежня ў адпаведнасці з праграмай культурнага супрацоўніцтва, прынятай урадамі Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Федэратыўнай Рэспублікі Югаславіі.

Сёння наш штотыднёвік друкуе творы славенскіх пісьменнікаў — удзельнікаў Дзён славенскай культуры ў Беларусі.

**Тоне ПАЎЧЭК**

## Балада

Залатакудры, ён у свет
за сонцам выйшаў, па расе.

Ідзе на захад—сонцу ўслед
і сонейка ў руках нясе.

Яго вітаюць—што ні крок—
і куст, і квет, і матылёк,

і птах з гнязда, і гад з травы,
а ён—ідзе, як нежывы,

за сонцам крочыць ён адно,
што ў мора коціцца, на дно.

Бязважка, доўга так ідзе—
і ўсё: ні знаку на вадзе...

Назад павек не прыйдзе ён.
Устала хваля, і, як звон,

у вечнасць рэха паплыло.
Як бы нічога й не было.

## Песня пра камень

Камень кінуты ляжа долу—
хоць да неба няхай дасягне.
Так і ты ўрэшце сыдзеш долу.

Толькі вецер рукі працягне,
каб пагрэць іх на папялішчы.
Нібы дар у руках працягне.

След ад босых ног на іржышчы
зноў спакусіць цябе блуканнем.
Будзе ў муках шлях: па іржышчы.

І як зоймешся ты шуканнем
свайго следу ў небе і долу,
між другіх, што жылі шуканнем,

можа, знойдзеш, што знойдзе камень
у палёце-падзенні долу,
і спазнаеш: шчаслівец—камень,
часам сцышчаны, верны долу.

## Ты іх не бачыў

**З нізкі «Славенскія песні»**

Ты іх не бачыў, як яны прыйшлі,
нязграбна важныя, маўклівыя,
у цёмных апранахах,
з абветранымі тварамі ў маршчынах,
з вялікімі рукамі—як няўмела ў іх
яны трымалі краскі са сваіх лугоў!—
ты іх не бачыў,
папярэднікаў сваіх,
прадстаўнікоў зямлі, якіх
прывабіў твой апошні верш,
яны прыйшлі цябе павіншаваць,
паклон табе аддаць
у першы і апошні раз
як аднаму з сваіх,
як аднаму з-між іх.

Ты іх не чуў,
як цяжка запелі песню—
роду, пагоркам, зямлі,
пелі працяжна, тужліва,
пра непераможнае зло,
што нашы рукі складае;
яны развітацца прыйшлі
і пайшлі б за табой і з табой,
да продкаў, у неба,
калі б іх не звала зямля,
калі б іх не звала жывёла
і з покуці ў хаце забыты ўжо бог.

**Цірыл ЗЛОБЕЦ**

## Хто я?

Раптам мне
усе мае імёны-званні
паказалі спіну.
Добрыя,
і мудрыя,
і слынныя—
пакінулі мяне.

Цяпер
з адрэзаным у горле словам,
з адной надзеяй
на голы чалавечы голас,
крычу штосілы вам
і праслухоўваюся,
а вас не чую.
Як камень,
пушчаны з цікаўнасцю
і страхам
дзіцячаю рукой,
ляціць і доўга падае
ў глухую бездань,
так я ва ўласным
немым
крыку
падаю да вас
без звання-імені.

Хто я?

## Эпілог

Рука—на жаночых грудзях.
Бяспечны?
Або апякун?

Адно пакуль дзень не згасне.
Калі ж ён абернецца ў вечар—
другія,
якія цяжэй за ягоны цяжар,
за рукі мяне падвешваюць,
за ногі мяне падвешваюць,
з кожнай ноччу
усё цяжэйшыя,
рукі мне выцягваюць з рук,
ногі мне выцягваюць з ног,
усяго мяне выцягваюць з мяне
і кідаюць у бяздонне.

А там мерцвякі—жывыя!
Яны мяне зноў забіваюць,
хоць забіваць і не хочуць,
там іх, мёртвых, я зноў забіваю,
хоць іх забіваць не хачу.
І гэтак—штоночы.

Штоноч
рука—на грудзях жаночых.

## Ноч

Ноч, цямнейшая за цемру,
ноч, святлейшая за святло,
ноч, што на парозе дому нам
перасякаеш жорстка шлях-дарогу,
каб мы не зналі з дому не дамоў,
ноч, што рассыпаеш перад намі

**Уладзімір КАЎЧЫЧ**

# Пустата

Папаўдні свінцова-цяжкая і пагрозліва-змрочная хмара навісла над Калаўратам. З яе выблыталася змяіная галава і на даўжэзнай гнуткай шыі праляцела па-над далінаю. Пры гэтым так палала, быццам з усёй сілы напіналася, каб вывергнуць як найбольш агню. Аж хвост заматляўся. Потым гэтае страшыдла прыціхла, бо засталося адно на чыстым небе. Сонца таксама нібыта патанула і паблясквала толькі светлым кружочкам, нагадваючы савінае вока ў прыцемках. Надыходзячы вечар адсунуў іх абаіх на край небасхілу. І яны пагаслі.

Ноч павольна рассцілалася па даліне. Змоўк плач дзіцяці ў вёсцы ўнізе, сціхла рыканне скаціны, не адзываліся болей з пашы званочкі. Знямелі выганы, і вада вышумела, выгаманілася ў неба, якое зрабілася цёмным і халодным, без зорак...

Усё знікала з яго вачэй. Не толькі злавесны знак на небе, але і само гэтае неба, лугі і нівы, выселкі ў даліне і сядзібы, раскіданыя па цясніне, і нават зямля, на якой стаіць — усё тое, што было для яго жывое і блізкае...

Гэты дом, у якім ён нарадзіўся, правёў дзяцінства і вырас у мужчыну, дом, які сваімі рукамі з камянёў і абчасаных бярвенняў будаваў дзед, двор з хлявом і свірнам паасобку, сонечныя нівы, якія кармілі сям'ю... Усё беззваротна прападала. Цэлае жыццё сышлося ў застылае сёння, якое можна акінуць нават адным вокам. Горы, дрэвы, зямля пад нагамі — усё зрабілася прывіднае і няўстойлівае, гэтак жа, як і ён сам... Ён ведаў, што губляецца, гіне ў прасторы, і разам з тым разумеў, што не мае права даваць волю журбе.

З разбуранага вулея вохка запахла мёдам, ад свірна данёсся водар сасновай смалы і сухіх ружаў, якімі на каляды абкурваў сядзібу ад урокаў. Не на гэтыя, а яшчэ пазалеташнія, калі іхнія надзеі былі яшчэ вялікія, калі яшчэ верылася ў свае правы, а ўлада гэтай веры яшчэ не задушыла... Адтуль, дзе былі дзверы хлява, на яго разявілася пустата. Сёння апоўдні адабралі авечак. Валоў і кароў забралі раней...

З Кабылляй галавы наляцеў халодны начны вецер, здрыганулася цемра на двары, запаленая лучына высвеціла скляпеністыя дзверы, крыху святла дайшло і да бычка і спрацаванай канякыны, прывязаных каля плота. Раптам пачуўся нейкі шум на страсе, ды такі моцны, што, здалося, дах абвальваецца... Рука ўзнялася да лба, ён перахрысціўся, а потым сціснуў кулакі, ледзь стрымліваючыся ад праклёну. Ды голасу не падаў, толькі ў вачах адчуў такі боль, як быццам бог хацеў скараць яго слепатою.

Клункі з вопраткай і харчам ён навязаў на каня адвячоркам, а воліка нагрузіў яшчэ раней. Надышоў момант, ім самім прызначаны. Праўда, цемра была гусцейшая, як чакалася. Агонь у ачазе дагараў. Дзеці глядзелі на яго моўчкі, жончын твар з парога здаваўся яшчэ вузейшы і яшчэ болей абразовы. Маці драмала, прыхіліўшы галаву на складзеныя рукі, і з прысвістам пасапвала. Яна яшчэ жыла, хоць восем дзён таму яе ўжо былі саборавалі... З таго часу, як ён вярнуўся дадому, яна, здаецца, ужо нічога не разумела. Нават погляд рэдка калі набываў усвядомленасць, так што і па вачах немагчыма было здагадацца, чаго яна хоча... Яшчэ днём яе абвязалі ваўнянаю посцілкай, а тым не меней яна трэслася, дрыжала, нібыта вось-вось выпусціць дух. Ды іншае, відаць, было наканавана... Да гэтага, апошняга дня чакалі, хацелі зберагчы яе ад выгнання, спадзяваліся, што развітаюцца з ёю да таго, як пакідаць родны прытулак і гэты край.

Пад ногі прыпоўз сабака, цёмны, бы ноч. Ён гэта больш адчуў, як убачыў, бо сабака не падаваў голасу. У гэткай цішыні словы, з якімі ён звярнуўся да сваіх, прагучалі таямніча.

Маці была лёгкая, як падушка. Калі ўладкоўваў яе на кані, свісцячага сапення ўжо не чуваць было. І ён выйшаў на дарогу, ведучы каня на павадку абедзвюма рукамі. Жонка з сынам цягнулі за сабою бычка, дачка падганяла яго ззаду.

Удары капытоў па камяністай дарозе гулка аддаваліся. Рэха ляцела наперад у даліну і вярталася, як быццам хацела весці за сабою. Але гэта не кранала яго, не ўплывала на думкі, якія заблукалі па ўнутранай цішыні.

Назаўжды пакінуць гэты край—так патрабаваў указ, такі выйшаў лёс... Калі даведаўся пра гэта, не было так страшна, думалася нават, што лёгка абышоўся, не згніў у Горыцкай турме, не чвартаваны, як яго верны таварыш Мацця Падгорнік і іншыя... Ягонае ж цела скалечанае не выстаўлялі ў Панаўцы ці ў Солкане, сабакі не лізалі яго крыві, як лізалі кроў другіх таварышаў па няшчасці. Год прабыў у турме з сотняю іншых... Калі пасля гэтага зноў убачыў святло белага дня, сонца яго проста ашаламіла, ледзь на нагах утрымаўся. П'янеў ад свежага паветра, п'янеў ад таго, што ліха мінула. А цяпер вось зламаны перажытымі пакутамі і безнадзейнасцю таго, што чакае... Але гэтага нельга паказваць. Адразу ён суцяшаў сябе тым, што і ў іншых месцах людзі жывуць, што і там зямля, мо нават лепшая за іхнюю, а таксама і тым, што ёсць яшчэ сіла, каб паставіць новы дом.

Але тады ён не ведаў, як усё змянілася, як за гэты час састарэла жонка, як падраслі меншыя дзеці. Вядома, усе радаваліся, калі ён вярнуўся, гэта так. У іхніх вачах ён чытаў, што горшае ўжо ззаду. Усё скончана... Ды было ў іх нешта яшчэ, нешта іншае... Мабыць, дакор...

Ці ўсё ён правільна рабіў? Ці думаў пра іх, калі далучыўся да паўстанцаў? Ці ўлічваў усе цяжкасці, якія з гэтага вынікаюць? Ці напраўду верыў, што будзе так, як абяцалі самыя красамоўныя? Што паны саступяць і сяляне даб'юцца сваёй праўды... Хіба з самага пачатку не ведаў, што ўсё гэта кепска скончыцца? Хто даў яму права зацягваць у бяду не толькі сябе самога, а яшчэ і сям'ю... Такія вялікія былі надзеі. Гонар і запаветы дзядоў вялі іх да бунту. За справядлівасць... Святар грымеў з кафедры, што гэта ад гардыні і сквапнасці, аднак у душы быў на нашым баку. Ён проста хацеў іх засцерагчы ад горшага. Жонка таксама напаміла, што іхнія пакуты ад бога, а таму іх трэба прыняць і несці, як Хрыстос нёс свой крыж... «Божыя і людскія законы...», — падумаў ён, і перад ім расчыніліся цёмныя і слізкія сутарэнні Горыцкай турмы. Ён скалануўся і агледзеўся вакол сябе.

Маці памрэ ў дарозе. Мо нават і на першым прыпынку, калі зразумее, што на чужыне. Жончын схуднелы твар увесь час папракаў яго за тое, што гэтак выйшла, што ён зрабіў не інакш. Без слоў, вядома, бо і яна ведала, што стаяць убаку ён не мог. Некаторыя паспрабавалі, дык імі будзе пагарджаць не адно пакаленне.

Раптам схацелася, каб побач быў старэйшы сын Якоб. У іх аднолькавыя погляды... Разам адседзелі год у турме, ды Якоба гэта не зламала так, як яго... Але Якоб пайшоў яшчэ зранку наперад, каб разведаць. Вечар яго застаў на Масоры, у Атуш'і. Увесь час ён спяшаўся, каб, не трацячы часу, знайсці месца пад сонцам. На Масору ён прыходзіў ужо два тыдні таму. За такую вось ноч туды і назад... Адзін атушынец абяцаў яму, што папытаецца ў сваякоў у Црклянскім. Каб толькі гэта не было адгаворкай, звычайнай спробай без горкага слова пасланць кудынебудзь, абы тут не бачыць... У турме ён пакляўся, што пяройдзе за Талмінскую гару, калі выпусцяць на волю, перабяжыць на землі Венецыі і возьме другое імя... Аднак цяпер зрабіць гэтага не можа, не смее... Каб гэта была адна яго воля, а тут... Проста так не пакінеш матку з меншымі. Бадай што, без яго яны не перажывуць зімы.

Змрок у даліне час ад часу радзеў, але бачнасць ад гэтага не паляпшалася. Па схілах ткаліся туманы, холад пашчыпваў рукі і твар. Рэха ад крокаў стала карацейшае, і ўсё больш ствараласяўражанне, што яшчэ нехта ідзе побач. З кожным крокам рэха ўсё больш напаміала пра небяспеку. Тым не меней ён ні разу не азірнуўся. Мясціны былі знаёмыя, і не было па-

цёмны бляск намераў і агіднасцей,
каб мы да ранку бавіліся з імі,
ноч, што дорыш нам красу жанчыны
і сваім цёмным сонцам спеліш
семя ў нас
і ім жа раскрываеш кветкі
для найпрыгожшых на зямлі народзін,
ноч з найбольшым між усіх стварэнняў
сэрцам,
сёння, як пачнеш балоцістую вохкасць
мораку
мне зноў сцяліць пад ногі
і ў вочы мне пасвеціш, нібы следчы,
я ўсаджу табе ў сэрца нож,
усаджу ад зайздрасці,
ноч,
цямнейшая за цемру,
святлейшая за святло.

## *Мая кароткая вечнасць*

Я ёсць, бо мяне не было ніколі,
я ёсць, бо ніколі мяне ўжо не будзе.
Я—імгненне, якое крычыць
са светлай душою
сваёй кароткай-кароценькай вечнасці.
Адвага маіх голых рук—
у грыве ягонай,
я шалею ажно
у сваім непазбежным падзенні,
каб яго перагнаць.

Знаю, што—самаабман,
а кроў мая ўсё-ткі верыць,
і ў веры яе
кожны міг—нескончоны
і ў ім мая вечнасць кароткая
доўжыцца.

І таму я павінен прызнаць:
я ёсць, бо я ўчора ўжо быў,
я ёсць, бо і заўтра таксама я буду,
божа, злітуйся нада мной!

Са славенскай пераклаў
Ніл ГІЛЕВІЧ.

трэбы асабліва напружваць вочы, каб не збіцца з выбранага накірунку. Галоўнае — трымацца каля рэчкі. А яе плынь, хоць і мянялася — была то бурлівая, то спакойная, запаволеная і амаль нячутная — нязменна нагадвала пра сябе, пакуль што не згубілася. У паветры тут было вельмі шмат вільгаці, халоднай расою пакрылася ўся яго спіна, ногі зацяжэлі ад стомы. Тут раптам ён падумаў, што пераацаніў сваю сілу, што не ўлічыў, як гэта будзе адолець такі шлях жонцы і дзецям. Родны кут сыходзіў усё далей, усё гусцей завешваўся імжою. Рабіўся прывідам, як мясціна са сноў. А ў ёй жа заставаліся цеплыня і святло згадак. Успомнілася, як калісьці дапамагаў бацьку збірацца на фэст, прыгадаўся пах грушак-гнілак.

На пустэльнай гэтай дарозе яго пагляд нязменна быў скіраваны ў сябе самога. Памяць зноў і зноў вяртала ў мінулае, далёка назад, яшчэ ў тыя гады, калі яго аднаго не пускалі пасвіць статак, а потым пасылалі прадаваць палатно. Пры бацьку ён быў пэўны, асаблівых цяжкасцей не ведаў, а пра будучае проста не думаў. Тады яму здавалася, што час не мае межаў. А ўсё мінула так хутка... Не паспеў апамятацца, як надышоў канец бесклапотнаму дзяцінству. З гэтай пары непрыемнымі здаюцца толькі дні, калі пастушком у навальніцу, пад грымотамі і бліскавіцамі, зганяў у зацішнае месца жывёлу, якая забіралася высока на скалы... Потым араў, касіў сена на стромах, сек дрэвы на самых цяжкадаступных дзялянках. Быў ужо хлопцам і пазглядаў на дзяўчат... Ад дзяцінства да старасці тры-чатыры межавыя камяні, а між імі нічога... Цяперашнія здранцвеласць, знямоганасць, адчуванне, што сіла неяк неўпрыкмет выпарылася, — гэта не толькі ад пакут, якія давялося зведаць, не толькі ад расчаравання, што задушана паўстанне, гэта яшчэ і ад гадоў... Пяцьдзесят два іх ужо за плячыма. Бацьку не намнога больш было, калі памёр. Ці ж праўда ўжо гэтак многа, і гэтак блізка да канца? Ён зноў аж сцепануўся. І зноў прыслухаўся да ночы.

Усе гукі былі на сваіх месцах. Значыць, з ім усе, хто павінен быць. Толькі матчынага сапення не чуваць. Нібыта заснула. Хоць гэта і мала верагодна. Без сну яна прабыла ўсе апошнія ночы. Калі ні прыслухаешся, яна

(Заканчэнне на стар. 10).

Тоне ПАРТЛІЧ

# ВОЎК НА МАДРЫДСКІХ ВУЛІЦАХ

ВОЎК ляжаў у клетцы ў заалагічным садзе і ачуньваў. Быў ён увесь скалечаны, але раны ўжо папрыгойваліся, і ягоная воўчая памяць пачала паступова прыгадваць увесь шлях ад Сьера Гуадараме, з таго часу, як ён пакінуў сваю зграю. Справа ў тым, што ён быў дзівак, прываблены ззяннем, якое пагодлівымі начамі было відаць удалечыні, над горадам. І вось адной начы неяк яго ўзяло ды пацягнула да гэтага ззяння. Спатоліць смагу ён, хаваючыся ад людзей, поўзаў да ракі Ярамы. І рабіў гэта спрытна, як належыць сапраўднаму ваўку. Праўда, у глушы і адзіноце яму падчас станавілася тужліва, і ён не заўсёды мог утрываць, каб не зайсціся кароткімі парывістымі поклічамі. Тады ўспаміналіся сябры і танкалапая ваўчыха. Прабіраўся ён крадком, душыў якую авечку і бег далей, прагны не гэтулькі да крыві, як да ззяння горада.

І вось неяк на досвітку апынуўся перад горадам, перад Мадрыдам. Ззянне, праўда, стала бляднець, бо пачынала ўзыходзіць сонца, і воўк быў крыху расчараваны, што ўсё не зусім так, як бачылася здалёк. Аднак ён нават сабе самому не хацеў прызнавацца ў гэтым расчараванні, бо ззаду быў гэткі цяжкі і доўгі, ой доўгі, шлях. Ён састроіў на мордзе ўсмешку, каб падлашчыцца да людзей, якіх напаткае, і накіраваўся ў горад. Вуліцы ў гэты час былі амаль бязлюдныя, яшчэ толькі на ўскраіне дзе хто пачаў збірацца на свае прадпрыемствы, будоўлі, у майстэрні ды валакліся дадому нявыспаныя, стомленыя прастытуткі. Чыста падобныя на ваўка.

Якраз прастытутку першую і сустрэў воўк. Той начы яна была з двума прышчавымі, п'янымі і сентыментальнымі студэнтамі, якім хацелася выратаваць яе, Іспанію і ўвесь свет. І гэтыя двое з самага пачатку сапсавалі ёй настрой.

Потым у яе быў нейкі джэнтльменам апрануты поп. Пасля яго неміласэрна доўга цешыўся натурысты афіцэр. Ды ніводзін нават выпіць нічога не прапанаваў. Так што яна брыла стомленая, з няўтоленай смагай і крыўдаю.

Убачыўшы ваўка, яна, пэўна, падумала, што гэта сабака, таму падышла, пагладзіла і сказала: «Аднолькавыя мы з табою, жывёлінка». Воўк намагаўся што прыязней і спагадлівей усміхнуцца, але прастытутка гэтага не заўважыла, бо зайшла ў нейкія дзверы і патупала па ступеньках некуды ўгару. Тым не меней воўк адчуў сябе спакойна і ўпэўнена. Ён ужо амаль што пачаў любіць людзей, хоць і заўважыў сам сабе, што не варта гэтак адразу спяшацца з абагульненнямі. І меў рацыю.

Тым часам на ваўка звярнулі ўвагу прыбіральшчыкі вуліцы. Яны ўбачылі, што звер, унюхаўшы ваду, стомлена накіроўваецца да калонкі.

— Глядзіце, воўк! — сказаў адзін з іх.

— Ды не, напэўна, сабака.

— Ты што, не бачыш? Воўк! Акружайма!

Яны пахапалі — адзін шуфель, на які збіралі смецце, другі жалезныя граблі — і быццам бы спакойна, з годнасцю, хоць у саміх ад страху і напружання дух займала, пачалі акружаць звера. Яны чуліся, як паляўнічыя, баявыя разведчыкі, мсціўцы, што атрымалі заданне знішчыць нейкую надзвычай важную асобу, скажам, Гітлера. Падышоўшы зусім блізка, яны аднначасова ўдарылі. Спачатку воўк застыў ад неспадзяванасці — людзі ж падыходзілі нібыта без злых намераў, а потым адчайна скавытнуў і кінуўся наўцёкі. Але моцна дастаў шуфлем, які папаў па самай спіне, і небарака, выцягнуўшыся, аж застагнаў. Добра яшчэ, што граблі праляцелі міма, а то ж маглі прашыць да касцей. Ды прыбіральшчык, які прамазаў, усё роўна хацеў расправіцца з праклятым зверам, у якога з першага разу не папаў, і цяпер прымерваўся, каб улупіць па галаве, каб выбіць вочы і потым спакойна дабіць. Тады воўк вырашыў пераскочыць агароджу і схавацца ў садзе пад якім-небудзь кустом, каб хоць залізаць спіну, якая смылела і крывавіла, хоць хрыбет, як падказваў яму спрадвечны інстынкт, быў не зламаны. Гайсануў... і папаў на спіну нейкаму хлопцу, што сядзеў з дзеўкай. А дзеўка была цяжарная, ужо добра вызначылася. Хлопец, вазак катка з дарожнага прадпрыемства, імгненна ўсхапіўся, вылаяўся і заверашчаў: «Воўк!» Яго абурыла найперш тое, што воўк перашкодзіў яму, бо ён жа цэлую ноч дзеўку ўгаворваў, ды тая не давалася, бо была ўжо на пятым месяцы, а ён яе не браў замуж, як некалі абяцаў. Вось таму ён з асаблівай злосцю выцягнуў калок, да якога быў падвязаны куст квітнеючых ружаў, і пагнаўся за ваўком, які і сам страшэнна пералякаўся, аніяк не мог сцяміць, што ж рабіць далей. Хлопец зразумеў, што воўк не намераны кусацца, ён ад збянтэжанасці ашчэрыў зубы і бегае туды-сюды, таму проста шпурнуў калком па лапах. І папаў. Звер заскуголіў і паскакаў ужо на трох, сагнуўшы пярэднюю так, што яна нагадвала крывую касматую шабельку. Нечакана перад ім аказалася нейкая дзіра пад сцяной, ён, не раздумваючы, юркнуў туды. Але тым часам дзеўка (яна працавала ў мясніка), папраўляючы ўборы, сонным голасам спыталася:

— Што там?

— Воўк.

Тут дзеўка раптоўна змянілася. Яна хуценька знайшла парасон, які звечара мела пры сабе, падбегла да нары, у якую папаўся воўк, і давай тыркаць вострым канцом. І не спынілася нават, аж пакуль не адчула, што востры алюмініевы стрыжань скрозь шкуру ўлазіць у мяса. Ды яшчэ й прыгаворвала:

— Праклятыя ваўкі, ад вас паляўнічым няма жыцця, вы б людзей жэрлі, майму дзіцяці выжарлі б вантробы, каб да яго дабраліся! Вось за гэта, за гэта, за гэта!... На табе, воўча, на, спіцу табе вострую, на! Затаўку, задзяўбу, пракляты!.. Ты б хацеў людской крыві напіцца, а не выйдзе, ты б хацеў маё дзіця зжэрці, людаедзіна паскудная, дык во на табе, на!.. От няхай твая кроў пырскае, от табе ў пашчу, каб на цябе, дай божа...

Воўк на сваёй шкуры адчуваў страшэнныя, бязлітасныя ўколы. Адчуваў кроў і разумеў, што дзіра, у якую ён залез, аказалася пасткай. Выходзіла, што адзіная магчымасць вылезці з гэтай чортавай пасткі — гэта набрацца мужнасці і выскачыць зноў на вуліцу. Строіць прыязны выгляд і ўсмешкі людзям цяпер ужо не было ніякай патрэбы. Ён сабраў астатнюю сілу і кінуўся вонкі, паваліўшы пры гэтым дзеўку, а потым напружыў свае тры лапы і сігануў цераз агароджу назад на вуліцу. Спадзяваўся, што прыбіральшчыкі ўжо пераcталі думаць пра яго, таму адразу ж прысеў адпачыць, аддыхацца і супакоіць боль. Калі вылятаў з нары, ён быў настраміўся на алюмініевы стрыжань (парасона) і цягнуў парасон за сабою, пакуль той не вырваўся сам, зачапіўшыся за куст.

Дзеўка ляжала на спіне, і хлопец, кінуўшыся да яе, распытваў пра адчуванні.

— Ат, — сказала дзеўка, — малы ўсё роўна брыкаецца.

— А ты смелая, — заўважыў хлопец. — І праўда, мусіць, найлепш будзе, калі ажанюся з табою. Надта ж ты смелая. Ды і цяжарная ўжо даўно. І поп казаў, што мне трэба браць цябе.

— Любы, я ж табе заўсёды верыла, — прызналася дзеўка.

Воўк ляжаў па другі бок агароджы і не думаў пра шэрую танкалапую ваўчыху, з якой так шчыра і хораша кахаўся сярод лесу пад дрэвамі. Міма праходзілі рабочыя абутковай фабрыкі, якім трэба было падбіваць абцасы на чарговай лініі.

— Гляньце, сабака здыхае, — заўважыў нехта з іх, не спыняючыся. Але другі прыгледзеўся і сказаў, што гэта воўк. Усе ўзбударажыліся і пачалі шукаць, з чым бы гэта кінуцца на звера. А Педра, у якога было пяцёра дзяцей і нямала сілы, дастаў свой кішэнны нож, адапхнуў усіх і кінуў: «Глядзіце!»

Нож бліснануў, як у свае лепшыя часы, калі яго ўласніку за бойкі з панажоўшчынай тройчы даводзілася сядзець у турме. І ваўкова вока пацякло, нібыта вінаградзіна, калі яе счавяць няўклюднымі пальцамі.

Заскуголіў воўк і кінуўся ўцякаць на трох лапах. А рабочыя абступілі Педра, ляпалі яго па магутных плячах і абяцалі, што пасля работы паставяць літроўку малагі і кіло гарачай варанай каўбасы. І Педра быў задаволены, ён зноў ведаў, чаго жыве на свеце.

Потым на ваўка наляцелі яшчэ нейкія рабочыя, студэнты, што разносілі малако, жанчыны, што спяшаліся на рынак купляць і прадаваць — і ўсе яго таўклі, колькі здужалі.

Дзіўна, але паліцэйскі з'явіўся позна. Калі ён падышоў, воўк, прыпаўшы галавою да зямлі, спрабаваў знайсці хоць якую дзірку ў абручы людзей, якія білі яго парасонамі, кійкамі, сумкамі, кнігамі, торбамі... І не знаходзіў... Крыху ўбаку стаяў нейкі член таварыства па ахове жывёлы і лічыў удары, каб напісаць пратэстны ліст у рубрыку «Допісы» вячэрняй мадрыдскай газеты. А ў натоўпе крычалі:

— Ваўчыска паскудны, авечак сабраўся дзерці! Дзяцей хацеў падушыць, чалавечай крыві нахлябтацца!.. Свіння воўчая!.. Прылез у разведку, каб потым прывесці цэлую зграю і ўсіх нас перадушыць... Э не, не выйдзе! Хутчэй цябе заб'ём!..

Ніхто не ведаў, што гэта воўк-дзівак, што прыцягнула яго сюды святло ліхтароў Мадрыда, што ён пакінуў свой букавы лес на Сьера Гуадараме і падаўся да двух з паловаю мільёнаў людзей.

— Што тут такое? — спытаўся паліцэйскі.

— Воўк, — адказалі яму.

Ахоўнік парадку падумаў і прыгадаў тыя параграфы закона, што сцвярджаюць: небяспечным звярам забаронена свабодна хадзіць па мадрыдскіх вуліцах. Ён дастаў блакнот, загадаў людзям разыходзіцца і выпісаў ваўку штраф на пяцьсот песа.

Ваўку прамылі раны спіртам, замест страчанага вока ўваткнулі шклянае, і стаў ён, мабыць, адзіным прадстаўніком свайго віду са шкляным вокам. Час ад часу гэтае вока павінны былі чысціць, таму што з вочнай яміны, калі шкельца зварушвалася, цякла кроў, залівала шкляную зрэнку і на ёй згусала. Але гэта рабілася не так ужо і часта. А ён быў у заалагічным садзе унікальным экземплярам і таму, што прыйшоў сюды добраахвотна, і таму, што меў шкляное вока. Так пісалася ў праспекце.

Воўк спрабаваў думаць пра свой лёс, але думкі перакідваліся на людзей, якія, паводле яго воўчага розуму, сталі ягоным лёсам. Танкалапую сяброўку і букі бачыў ён толькі ў сне.

Са славенскай пераклаў
Іван ЧАРОТА.

# ПУСТАТА

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—9).

ў сваёй каморцы шэпча малітвы, штоночы па тры нізкі ружанца. Раней, да паўстання, гэтулькі не малілася... Каб упала з каня, заднія б заўважылі і яго паклікалі... Ён думае пра смерць, а тут яшчэ тая, што яго нарадзіла. Мо не варта думаць пра блізкі скон пры ёй? Калі ж і пра дзяцей думаць, дык ім ужо не надоўга патрэбны. Каб заставалася гэтак, як раней, Якоба можна было б ажаніць у Падмельцы. Цінчак бы застаўся на яго, бацькавай, гаспадарцы. А Рэзка яшчэ не мае куды спяшацца. Яе рукі маладому гаспадару былі б не лішнія. І маглі б трымацца. Аднак усё павярнулася на іншы лад... Ураджаю ніколі не было такога, як чакалася, а падаткі заўсёды большыя, чым абʼяўлялася першапачаткова. З году ў год песціў надзею на палёгку. Штовясны спадзяваўся, што верне, пакрые адабранае восенню... А чыноўнікі і зборшчыкі падаткаў усё ціснулі, і ціснулі, пакуль не ўскіпела... Тады здавалася, што болей трываць немагчыма... А што змянілася ў лепшы бок? Паны забралі ўсё, а іх прагналі, пусцілі па свеце, так што няма і галавы дзе прытуліць... Яшчэ калі іх загналі гніць у турму, больш як шэсцьдзесят семʼяў выгналі, адзінаццаць мужчын абезгаловілі і чвартавалі ў навуку астатнім на ўсе вечныя часы... Да паўстання яны не думалі, што можа быць яшчэ горш. А якраз так выйшла... Чалавек трывалейшы за жывёлу. Ніколі не губляе надзеі, яму ніколі не бывае так, каб не магло быць яшчэ горш. І тым не меней... Ніхто не шкадуе, што ўзнялі паўстанне. Гэтак павінны былі зрабіць, трэба было паказаць уладзе, што і яна прыступная. Што не ўсемагутная. Цяпер паны лютуюць, ды ўсё ж такі селяніна пачалі баяцца... За яго ж кошт жывуць, ад яго мазалёў... Дзяды высякалі лясы і выкарчоўвалі хмызнякі, жылі ў ямах і пячорах. У бацькі напачатку была толькі каза і адна дзялянка-высечка, а калі паміраў, ён пакінуў дом, чатыры каровы і гурт дробнай жывёлы. Каб гэта з маленства ведаць, што табе наканавана, трэба было б кожнае яго слова засячы сабе ў памяці. Але ж здавалася, што тое самае два разы не паўтараецца. Кожнае пакаленне павінна мець сваё паўстанне, пакуль не аслабее. Бадай, каб быў маладзейшы... Каб не гэтая задышка, каб ногі дужэйшыя, каб мець побач сапраўдных людзей, можна было б зноў паспрабаваць. Калі-небудзь удасца, паны будуць пабітыя, войска разагнанае.

Са стромы над дарогаю гучна і пранізліва заскавытала сава. Конь заржаў і спыніўся, баючыся ісці наперад. Сабака падбег і жаласна заскуголіў. Гэтыя прыметы не абяцалі нічога добрага. Недзе паблізу мо засеў драпежны звер. А мо чалавек, шпег ці разбойнік. Загадана было выбірацца з ранку, да паўдня пакінуць Талмінскае, а яны выйшлі ўвечары, каб хоць па дарозе іх не чапалі і не здзекаваліся. А яшчэ таму, што баяўся, каб у яго альбо ў Якоба зноў злосць не закіпела. Напэўна, якога-небудзь ціхапоўза паслалі ўслед, і цяпер той падцікоўвае з кустоў. Калі гэта разбойнікі, могуць забраць усё, што яшчэ засталося, дарэшты. Могуць пабіць і пагнаць голымі ў ноч.

Зусім пад вухам засоп бычок. Шморгнуў носам Цінчак. Усе, людзі і жывёла, збіліся ў кучу вакол яго... Сава больш не адазвалася, сабака таксама ўціхамірыўся. Але ў яго благое прадчуванне заставалася. Нешта сціснула, як быццам захлынуліся лёгкія, галава налілася цяжарам. Усё цела пакрылася халодным потам, вочы самі заплюшчваліся ад высілення. Але ён ведаў, што трэба рухацца далей, і дзякаваў богу, што ніхто не можа бачыць яго ў гэтую хвіліну слабасці.

Гэтак адной начы ў познюю восень 1714 года, праз паўтара года пасля Талмінскага паўстання, са сваёй сямʼёю адыходзіў у выгнанне Матэўж Плаціша, празваны Грогавец.

Са славенскай пераклаў
Іван ЧАРОТА.

**ПАДЗЕІ І ДАТЫ**

*Да 70-годдзя з дня нараджэння Канстанціна СІМАНАВА*

# ТОЛЬКІ ДВА СЛОВЫ



З ПЕРШАГА дня Айчыннай вайны ў тылавым леспрамгасе мы адчувалі сябе мабілізаванымі і прызванымі: працавалі, не ведаючы выхадных і спачыну,— пілавалі артбаннік на гарматныя лафеты, часалі ружэйную балванку для аўтаматаў і вінтовак, валілі адборны бярэзнік на авіяцыйную фанеру, сасоннік і ельнік — на рудстойку, рэзалі і адгружалі дровы Маскве.

Калі ж выпадалі вольныя вечары, у чырвоным кутку па старонках «Праўды» рэпеціравалі гарачую, узрушаную пʼесу «Русские люди». Тады ўпершыню пачуў прозвішча — Канстанцін Сіманаў. Спектакль удаўся, і мы яго некалькі разоў паўтаралі на сцэне нашага клуба. Удзень у ім была сталоўка, а ўвечары рассоўваліся сталы, і прапахлая капустаю стадола ператваралася ў тэатральны партэр. На сцэну засяроджана глядзелі пачырванелыя ад ветру і марозу вочы лесарубаў і возчыкаў, уздыхалі, выціралі слёзы расчуленыя жанчыны.

Фронт ад нас быў далёка, але яго вогненная лінія праходзіла праз кожнае сэрца: недзе палалі нашы сёлы і гарады, гінулі родныя і блізкія. Мы рваліся ім на дапамогу, але не меней былі патрэбны тут: без моцнага тылу не абысціся фронту.

Пасля спектакля мяне запрасіў да сябе эвакуіраваны стары доктар Рафес і прачытаў выразаны з «Праўды» верш «Жди меня». На апошніх радках голас яго задрыжаў і пакаціліся слёзы па ўпалых шчоках і востранькай сівой бародцы. Сіманаў сказаў за сябе і за ўсіх, каго чакалі і хто чакаў. Потым рознымі шляхамі даходзілі да нас новыя вершы Сіманава: іх перасылалі ў лістах, перапісвалі адзін у аднаго, дэкламавалі на вечарах самадзейнасці, паўтаралі асобныя строфы па дарозе на лесасеку. Асаблівым болем разанулі па сэрцы радкі: «Ты помнишь, Алёша, избу под Борисовом, по мёртвому плачущий девичий крик, седая старуха в салопчике плисовом, весь в белом, как на смерть одетый, старик». Усё дакладна, знаёма, убачанае, адчутае і выпакутаванае на вайне сапраўдным паэтам. І разам з тым Сіманаў для мяне заставаўся загадкаю. Нешта лермантаўскае было ў яго вобліку і паэзіі. Да нас даходзілі чуткі, што ён заўсёды ў самым пекле баёў, што вандруе з фронту на фронт — піша нарысы і аператыўныя рэпартажы, а прачулай лірыкай саграе салдацкія душы.

Я натхнёна чытаў грузчыкам і лесарубам яго «Хозяйку дома». Колькі ў хвалюючых радках было суровай шчырасці і веры ў той дзень, калі «наступит мир, и вдруг к тебе домой, к двенадцати часам, шутя, смеясь, пророча, как в дни войны, придёт слуга покорный твой и все его друзья, кто будет жив к той ночи». Напісана гэта ў 1942 годзе. Да першага мірнага дня трэба было пражыць яшчэ аж тры грымотныя і крывавыя гады. Вера і прадбачлівасць паэта станавіліся нашаю вераю, вераю кожнага, хто прагнуў міру. Сіманаў увайшоў у маё жыццё як спавядальная неабходнасць, як голас даверлівай, непадкупнай, яшчэ не выказанай праўды.

*Пасля вайны я чытаў яго лірыку* сваім вучням-пераросткам ва Урэцкай школе на Случчыне. З першай старонкі невялічкай кніжачкі глядзеў прыгожы чарнявы падпалкоўнік з тонкімі вусікамі. Я чытаў усё, што выходзіла з-пад яго пяра, — вершы, прозу, пʼесы, публіцыстыку, артыкулы ў цэнтральных газетах.

У канцы пяцідзесятых гадоў упершыню ўбачыў Сіманава разам з Твардоўскім у двары Саюза пісьменнікаў СССР і адразу пазнаў па партрэтах. Твардоўскага помніў юнаком з мінскага паэтычнага пленума. Цяпер гэта быў запаволены, пацяжэлы жывы класік; Канстанцін Міхайлавіч побач з ім выглядаў маладым — чарнявы, статны, лёгкі ў хадзе, але з нейкаю затоенаю тугою ў вачах, відаць, не расставаўся з Сінцовым і Сярпіліным, Лапаціным і сябрамі, што не вярнуліся з-пад Барысава і з Буйніцкага поля пад Магілёвам.

У лютым 1974 года з Масквы мне пазваніў нястомны прапагандыст літаратуры Дзмітрый Яўхімавіч Ляшкевіч і прапанаваў прыняць удзел у Днях літаратуры ў Разанскай вобласці. Даўно хацелася пабыць у ясенінскіх мясцінах, а як даведаўся, што пісьменніцкую брыгаду ўзначальвае Канстанцін Сіманаў, згадзіўся без ваганняў.

З Масквы ў Разань выязджалі ранішняю электрычкай. З радасцю сустрэўся з даўнімі знаёмымі Рымай Казаковай, Яўгенам Далматоўскім, Дзмітром Паўлычкам, Барысам Ласкіным, Яўгенам Вараб'ёвым, цікавым растоўскім паэтам Мікалаем Скробавым.

На разанскім вакзале разам з кіраўнікамі вобласці нас сустракаў Канстанцін Сіманаў у цёмна-карычневым кажушку, у збітай на сярбрыстую скронь каракулевай шапцы. Ён прыехаў на некалькі дзён раней, каб распрацаваць дакладную праграму, падрыхтаваць усё неабходнае для сустрэч і знаёмства з вобласцю. Разам з ім была адкрытая, усмешлівая і надзвычай абаяльная жонка Ларыса Аляксееўна. Канстанцін Міхайлавіч радаваўся сустрэчы з даўнімі сябрамі, моцна абдымаў Далматоўскага, Ласкіна, Вараб'ёва, астатнім ветліва паціскаў рукі і дзякаваў, што прыехалі. Гляджу на яго і дзіўлюся, як ён рана ссівеў, схуднеў, хоць далікатна ўсміхаецца, а ў вачах затоены сум.

У гасцініцы Сіманаў трымаўся, як гаспадар: клапаціўся, каб кожнаму было зручна і добра, заходзіў у пакоі ўзгадніць, хто з кім хоча разам выступаць, што паглядзець, куды з'ездзіць.

Пасля гутаркі ў абкоме партыі і кароткага адпачынку ўсе разам пайшлі ў гарадскі тэатр на літаратурны вечар. Зала больш чым перапоўненая: мы разумелі, што ўсе імкнуліся сустрэцца ў першую чаргу з Сіманавым. Па-будзённаму нетаропка, у світэры і джынсавай куртачцы, ён выйшаў на сцэну. На несціханую авацыю коратка астрыжанай галавой кіўнуў на ўсе бакі, а каб хутчэй замоўкла зала, загаварыў вельмі ціха, і публіка супакоілася. Канстанцін Міхайлавіч гаварыў проста, без прамоўніцкіх інтанацый, нібы даўнім знаёмым; не шкадуючы эпітэтаў, прадстаўляў удзельнікаў вечара. Ён нагадаў імёны слаўных пісьменнікаў, якіх дала свету разанская зямля — Якава Палонскага, Сяргея Ясеніна, Аляксея Новікава-Прыбоя, Аляксандра Афінагенава, Паўла Радзімава, успомніў славутых спевакоў братоў Піраговых, мастакоў Галубкіну, Архіпава, Якаўлева, сусветна вядомых вучоных Цыялкоўскага, Паўлава, Мічурына, Чыплыгіна.

Нехта з залы дадаў: «Канстанціна Сіманава». Ён сумеўся, памаўчаў і ціха сказаў: «Я ні ў якай ступені не лічу сябе славутым. Да вашых выдатных землякоў нам далекавата, але ўдзячны разанскай зямлі і вашаму гораду за ласку і цеплыню ў маім маленстве і юнацтве. Я тут пачынаўся як чалавек, як асоба, вучыўся ў пятай сярэдняй школе і рабіў першыя літаратурныя крокі». Словы яго захліснуліся воплескамі.

Кожнага з нас Сіманаў прадстаўляў шчодра, з многімі гіпербалізаванымі эпітэтамі, а сам выступіў апошні. Пачаў вершам «Жди меня», чытаў «Хозяйку дома», «Открытое письмо», франтавую лірыку, закончыў выступленне цыклам в'етнамскіх вершаў. Ён быў узбуджаны і ўсхваляваны — загарэліся шчокі, заіскрыліся вочы, выглядаў шчаслівым, памаладзелым.

Пасля вечара ўсе разам ішлі ў гасцініцу. У высокім халодным небе з хмаркі ў хмарку пераплываў маладзік, кідаючы доўгія цені на снезе. Канстанцін Міхайлавіч пацепваўся ад холаду, засланяўся ад ветру пальчаткаю. У гасцініцы ўсю нашу групу запрасіў на вячэру.

Вячэралі мы разам неаднойчы. Кожная вячэра праходзіла так весела, з такім дасціпам, добразычлівымі жартамі, цеплынёй і шчырасцю, што болей нічога падобнага і не прыпомню. Звычайна пасля вячэры Сіманаў запрашаў на шпацыр па начной Разані. На вуліцы ён настаўляў каўнер, насоўваў шапку і часта кашляў.

**ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ**



Вечар вядзе Яўген Міклашэўскі.

**Час уносіць карэктывы ў ацэнку творчасці пэўных аўтараў. Паэзія В. Хлебнікава ў гэтым сэнсе не выключэнне. І хоць У. Маякоўскі ў свой час пісаў, што ўспрыманне яе чытачом магчыма толькі «...ва ўрыўках, якія найбольш вырашаюць паэтычную задачу», цікавасць да напісанага гэтым своеасаблівым аўтарам з кожным годам павялічваецца. *Па-новаму* прааналізаваць здзейсненае В. Хлебнікавым, вызначыць месца яго ў гісторыі савецкай паэзіі даюць магчымасць і мерапрыемствы, якія адбываюцца ў гэтыя дні ў сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння паэта.**

**Урачысты вечар прайшоў і ў Доме літаратара.**

**Адкрыў вечар і вёў паэт, літаратурны кансультант СП БССР Я. Міклашэўскі. Думкамі пра творчасць В. Хлебнікава падзяліліся таксама С. Букчын, А. Разанаў, Б. Спрынчан. Б. Спрынчан, у прыватнасці, прачытаў свой верш, прысвечаны паэту і пазнаёміў з лістом М. Асеева, у якім той даваў ацэнку гэтаму твору, а таксама дзяліўся думкамі аб паэзіі В. Хлебнікава.**

**На вечары гучалі творы В. Хлебнікава ў арыгінале, а таксама ў перакладзе на беларускую мову.**

Фота Ул. КРУКА.

# ТЭАТР У ПРАПАНАВАНЫХ АБСТАВІНАХ



**Кіраўнікі Дзяржаўнага рускага тэатра БССР імя М. Горкага — дырэктар Э. І. ГЕРАСІМОВІЧ і галоўны рэжысёр В. В. МАСЛЮК — гутараць у прысутнасці карэспандэнта «Літаратуры і мастацтва».**



**В. Маслюк.** Тэатр існуе ў пэўна вызначаных, дакладна акрэсленых рамках. Гэта — **вытворча-фінансавы план.** Сярод яго пазіцый ёсць, напрыклад, такая — «колькасць пастановак». Колькасць, а не якасць. Крытэрый «мастацкасці» ў плане адсутнічае.

**Э. Герасімовіч.** Ну не зусім так. Нельга сказаць, што вытворчыя параметры цалкам пярэчаць паказчыкам, так бы мовіць, якасным.

**В. М.** Але ж у плане іх няма.

**Э. Г.** Няма. Ды толькі, трэба думаць, гэта таксама маецца на ўвазе...

Стоп, спыняю магнітафон.

Гаворка сёння пойдзе пра тэатр, «Кафедру», «люстэрка», «павелічальнае шкло»...

Пры чым тут фінансы, план, вытворчасць?

У. І. Неміровіч-Данчанка называў прафесійны тэатр «мастацкім прадпрыемствам», ядначы такім чынам высокае служэнне Мельпамене з прозай бухгалтарскіх рахункаў. Але і такі кампраміс падаецца празмерным, калі знаёмішся з нарматыўнымі дакументамі, што тычацца тэатральнай справы. Паводле іх, тэатр — гэта «відовішчнае прадпрыемства», да таго ж «планава-выдаткозае»...

Пры чым тут мастацтва?

Хацеў сёе-тое растлумачыць, атрымалася — заблытаў. Што зробіш, тэатр — гэта складана. Да таго ж, не варта без дай прычыны лезці за кулісы. Вось і сённяшняй гутаркі таксама магло і не быць, калі б не...

Але — мяркуйце самі.

**Э. Г.** Давайце дамовімся так — па ўсіх пытаннях, што будуць тут закрануты, мы маем **сваю** думку. Магчыма, спрэчную. Але заснавана яна на практыцы... Дык вось, мы сцвярджаем, што цэлы шэраг пазіцый вытворча-фінансавага плана, іншых нарматыўных актаў састарэлі. І даўно. Прыблізна ў канцы 60-ых, на пачатку 70-ых гадоў узнікла неабходнасць рашучых зменаў.

**В. М.** Калі змяніліся ўмовы, у якіх працуе тэатр, і спатрэбіліся новыя формы кантакту з гледачом. Канкурэнцыя з боку іншых відаў мастацтва ўзрасла. Нам трэба больш актыўна ўплываць на аўдыторыю, а дзеля гэтага — быць больш мабільнымі.

**Э. Г.** Разумееце, тэатр сам дакладна ведае, колькі трэба за год выпусціць новых спектакляў — два, адзін, пяць ці восем. Калі мы бачым, што, напрыклад, 70 працэнтаў рэпертуару адыграна, дык мы — самі! — кроўна зацікаўлены ў як мага больш хуткім яго абнаўленні.

**В. М.** І адпаведна — у больш хуткім выяўленні свайго мастацкага аблічча.

**Э. Г.** Так... Што ж адбываецца на справе? Сродкі, якія выдаткоўваюцца нам на год, строга рэгламентаваныя. Самастойна змяніць нешта мы не можам, трэба прасіць дазволу. А нашы ўзаемаадносіны з плануючымі інстанцыямі вельмі і вельмі недасканалыя. Нягнуткія. Тыя ці іншыя змены ў план мы можам уносіць толькі за 45 сутак да пачатку новага квартала.

**В. М.** За гэты час можна паставіць спектакль альбо адмовіцца ад яго і выпусціць іншы.

**Э. Г.** Яшчэ адзін момант. Тэатр рыхтуе планавую пастаноўку... Ідуць рэпетыцыі, працуюць акцёры, пастановачная частка — усё скіравана на тое, каб да гледача выйшаў паўнацэнны мастацкі твор. Паверце, ніхто не зацікаўлены ў дрэнным спектаклі. Натуральна, мне, як дырэктару, хочацца стымуляваць творчы працэс. Але я не магу сказаць: «Таварышы, вы добра папрацавалі, па выніках квартала вас чакае прэмія». Здача нас чакае ў канцы квартала — мастацкі савет і Міністэрства культуры прымуць альбо не прымуць спектакль. Такім чынам, прэмія залежыць ад таго, ці паспее тэатр завяршыць працу ў тэрмін, вызначаны, па сутнасці, збоку. У тэрмін, які не ўлічвае ні характару новай пастаноўкі, ні мастацкай задумы, ні магчымасцей для паспяховага яе ажыццяўлення.

**В. М.** Замест таго, каб рыхтавацца да ўрачыстага моманту, калі на прэм'еру прыйдзе глядач, адчыніцца заслона і павінна адбыцца свята, мы вымушаны ледзь не ў першую чаргу думаць пра тэрмін. Пра лічбу, зноў жа.

**— Карацей, выпускаецца «сыры» спектакль...**

**В. М.** Так, і мы запэўніваем камісію, што будзем спектакль «даводзіць». Працягваем працаваць над ім, спектакль паступова вырастае. Але ж прэм'ерны глядач бачыць недасканалы твор.

**Э. Г.** Цяперашняя сітуацыя часам правакуе на кампраміс. З сваім сумленнем, з творчымі прынцыпамі. Чаму б не пагадзіцца на тым, што тэрмін выпуску спектакля будзе выключна нашым клопатам? Мы зацвярджаем рэпертуар у міністэрстве (гэта — яго прэрагатыва) і пачынаем спакойна, без мітусні працаваць над пастаноўкамі. Мастацкі савет тэатра ў стане, запэўніваю вас, беспамылкова вызначыць меру гатоўнасці твора, заўважыць хібы і дабіцца іх выпраўлення. А пасля — прадставіць спектакль на разгляд дзяржаўнай камісіі. Тэрмін яго выпуску не павінен уплываць на выкананне вытворча-фінансавага плана...

Мяне па-ранейшаму хвалюе «этычнае» пытанне. Кіраўнікі тэатра вядуць адкрытую і дзелавую гутарку, ды ўсё можа быць абвернута прыблізна такой фразай: «Выбачайце, але якая нам справа да схаванага —і нездарма — ад вачэй, калі галоўнае — сам спектакль!»

Так, спектакль. Некалькі гадзін нашага суіснавання з акцёрамі, якія дзейнічаюць у абставінах, прапанаваных драматургам і рэжысёрам... Вопытны глядач іх адразу заўважае, гэта — пункт адліку і рамкі аднačасова. Яны шмат у чым зызначаюць акцёрскі поспех ці няўдачу.

Умовы, у якіх існуе тэатр, таксама можна назваць «прапанаванымі абставінамі». У сувязі з гэтым узнікае шэраг прынцыповых пытанняў. Ці адпавядаюць гэтыя «абставіны» патрабаванням сённяшняга дня? Ці даюць творчым калектывам пэўную самастойнасць у вырашэнні сваіх праблем? Ці пакідаюць прастору для «імправізацыі»? Ці ў поўнай меры спрыяюць выкананню пачэснай і адказнай місіі тэатральнага мастацтва ў сучасным грамадстве?

Рускі тэатр БССР імя М. Горкага па выніках першага паўгоддзя 1985 года ўзнагароджаны пераходным Чырвоным сцягам Міністэрства культуры СССР за перамогу ва Усесаюзным сацыялістычным спаборніцтве. Высокая ўзнагарода «перайшла» горкаўцам ад знакамітага Малога тэатра Саюза ССР. Як бачым, мінская руская драма паспяхова спраўляецца з планавымі заданнямі...

А дырэктар і галоўны рэжысёр настроены крытычна. Чаму?

**В. М.** Сёння вытворчы план — надзвычай зручныя ўмовы для існавання пасрэднасцей. Пасрэднага дырэктара, пасрэднага галоўнага рэжысёра, пасрэдных акцёраў. Пад гэтым, магчыма, крыўдным словам я разумею пэўны сярэдні ўзровень — досыць трывалы, але ні кроплі звыш таго. Выконвай усё своечасова — і ніхто не зачэпіць, заўжды з прэміяй будзеш... Я з ліку рэжысёраў, якія з павагай ставяцца да дырэктарскай працы...

**Э. Г.** Факт.

**В. М.** ...і шчыра спачуваю Эдуарду Іванавічу ў канцы месяца, квартала, года. Колькі намаганняў, каб выканаць усе інструкцыі, захаваць усе фармальнасці і «выдаць» лічбу!

**Э. Г.** На мой погляд, у вытворча-фінансавым плане павінна быць толькі дзве пазіцыі. Колькасць гледачоў і прыбытак. Нават і прыбытак можа адсутнічаць, бо ёсць глядач — білеты прададзены. Але пакінем прыбытак, таму што сама па сабе колькасць гледачоў мала пра што сведчыць. Сорак сапраўдных тэатралаў зробяць у горадзе для спектакля больш карыснага, чым 600 выпадковых, «арганізаваных» наведвальнікаў... Такім чынам, прыбытак і глядач. На добры лад, кіруючым інстанцыям трэба ўрэгуляваць прыбытак ад наведвання тэатра з дзяржаўнай датацыяй, збалансаваць дзве гэтыя лічбы і цвёрда патрабаваць ад нас прытрымлівацца разумнай прапорцыі паміж імі. Вось і ўсё! Астатняе — шляхі выканання плана — наша справа.

**В. М.** Хіба не натуральнае жаданне — самастойна размяркоўваць свае сілы? Нам даверана права кіраваць тэатральным калектывам, лічыцца, што мы ў стане вырашаць складаныя творчыя задачы і цалкам усведамляем адказнасць мастака перад сваім часам... Навошта ж залішняя апека? Нормы, правілы, інструкцыі, загады, прадпісанні... Мы літаральна патанаем у паперах, але за гэтымі лічбамі, пунктамі не відаць, як наша мастацтва ўздзейнічае на гледача. Не відаць галоўнага, дзеля чаго мы працуем. Часам дзіўныя сітуацыі ўзнікаюць... Вось, напрыклад, дакумент — «прапанаваныя абставіны», якія нам дыктуе Упраўленне пажарнай аховы МУС БССР. Катэгарычна забараняецца знаходжанне любых элементаў мастацкага афармлення за лініяй пажарнай заслоны. Што гэта значыць? Голая авансцэна. Лішнія «пустыя» метры паміж гледачамі і выканаўцамі.

**Э. Г.** Пажарная бяспека — справа надзвычай важная, ніхто з гэтым не спрачаецца. Але чаму б спецыялістам не пашукаць іншага выйсця? Чаму абавязкова за кошт спектакля?

**В. М.** Трэба яшчэ запытаць Эдуарда Іванавіча пра матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне і аснашчэнне тэатра.

**— Раскажыце, калі ласка...**

**Э. Г.** О, праблем тут — з галавой... Хоць бы такі прыклад, для пачатку. Паводле загада Міністэрства фінансаў СССР мы маем права ў рознічным гандлі за адзін раз купляць толькі па пяць назваў аднаго артыкула. Калі гэта тканіна, дык толькі пяць метраў. А на касцюм актрысе трэба дзевяць...

**В. М.** Адной актрысе.

**Э. Г.** І што вы мне загадаеце рабіць? Даводзіцца сёння купляць пяць метраў, назаўтра яшчэ раз пасылаць чалавека, выпісваць дакументы, і толькі пасля завяршэння цэлага цыкла аперацый, дакупіўшы чатыры метры, можна прывезці тканіну ў тэатр... Ды яшчэ трэба ўпрасіць, каб далі цэлым кавалкам, а не рэзалі на часткі — сшывай тады... Фантастыка! Працуюць — усе, а галоўная справа стаіць на месцы. Улічваючы тэрмін выпуску спектакля, гэта — тормаз для дзейнасці ўсёй мастацка-пастановачнай часткі... А праблему ж можна вырашыць проста — даць магчымасць тэатральна-відовішчным прадпрыемствам мець пастановачную чэкавую кніжку, па аналогіі з кніжкай для разлікаў з транспартам і сувяззю, якая дзейнічае на ўсёй тэрыторыі краіны. Чэкавая форма аплаты надзвычай зручная і ўкараняецца цяпер паўсюль, дзе мы хочам пазбегнуць залішніх фармальнасцей і нават валакіты ў фінансавых пытаннях. Не трэба пералічэнняў, не трэба адкрываць рахунак... Чэк! З яго дапамогай можна было б у любы момант разлічыцца і з гандлем, і з рэмпрамснабам — арганізацыяй, якая забяспечвае нас неабходнымі матэрыяламі. Цяпер парадак такі. У маі бягучага года мы павінны прадставіць у рэмпрамснаб Міністэрства культуры БССР заяўкі на будучы год. Натуральна, што ў маі нават назваў будучых спектакляў няма, не кажучы пра макеты ці элементы мастацкага афармлення. Затое пасля, калі спектакль рыхтуецца да пастаноўкі і ўжо вядома, што для яго неабходны, напрыклад, трубы, мне даводзіцца іх прасіць. Пра-сіць! А я не хачу, мне гэта перашкаджае. Я хачу прыйсці ў адпаведны час, узяць, што мне трэба, і разлічыцца чэкам. Вядома, у межах той пастановачнай сумы, якая вызначана тэатру на год.

**В. М.** Эдуард Іванавіч прапусціў адну акалічнасць. Справа ў тым, што ў маі мы ўсё роўна заказваем матэрыялы. Безадносна да спектакляў, але бяром і метал, і дошкі — усё тое і столькі, што і колькі даюць. Мы вымушаны быць запаслівымі, ствараць звышнарматывы... І выбіраць жа, трэба сказаць, няма з чаго. Мне шкада актрысу, якая выходзіць на сцэну ў сукенцы, пашытай з тых самых пяці метраў, у туфлях, мода на якія мінула дзесяць гадоў назад. А што рабіць? Здавалася б, рэжысёру няма да гэтага справы, дастаньце, дзе хочаце. Але дзе дырэктар возьме? Вось і з'яўляюцца ў спектаклі «Усё ў садзе» чатыры гран-дамы ва ўбраннях рознага колеру, ды аднаго гатунку тканіны. Таму што ў той момант, калі трэба было апранаць выканаўцаў, не знайшлося нічога іншага.

**— А ў «Фізіках» абіўка крэслаў — з «Гамлета»...**

**Э. Г.** Ну дык што, самі ж крэслы — з «Усё ў садзе»...

**В. М.** Нічога, мы робім выгляд, быццам не ведаем, што такія самыя крэслы стаяць ля кафэ «Вясна». Добра ставіць спектакль «На дне» — назбіраў рознай старызны, лахманоў, і ніякіх праблем з мастацкім афармленнем... Жарты жартамі, але ж усё гэта адбіваецца на змесце твора, на яго ідэі. І ўвогуле, на культуры тэатра. Хто вінаваты? Канечне, мы. У прапанаваных абставінах... Шматлікія абмежаванні і састарэлыя правілы проста перашкаджаюць працаваць. Нормы акцёрскай занятасці... Пра якую «занятасць» сёння можна казаць? Ёсць дзве катэгорыі акцёраў — таленавітыя і неталенавітыя. Не будзем спыняцца на праблеме «рэжысёр не бачыць». Я імкнуся «бачыць» усіх — мабыць, таму і маю права на пэўныя высновы... Дзеля таго, каб дасягнуць высакаякаснага выніку і атрымаць задавальненне ад сваёй працы, мне, натуральна, патрэбны самыя яркія фарбы, таленавітыя акцёры. Не чапляйцеся за словы, акцёр, вядома, — не фарба... Але таленавітыя—больш ярка, больш цікава мысляць, разам з імі лягчэй адкрыць нешта новае. Ці вольны я ў выбары? Не! Ад мяне патрабуюць выдатнага твора, але пры ўмове, што я туды і шэрасці намяшаю, і акцёрскай неспрактыкаванасці... Па сутнасці, я пазбаўлены сёння магчымасці і камплектаваць трупу. Гэта, напрыклад, малады спецыяліст, а тое, што ён тры гады не прынясе тэатру карысці, — нікога не цікавіць...

**Э. Г.** Валерый Васільевіч, але ж вы можаце не запрашаць неталенавітага маладога спецыяліста ў тэатр.

**В. М.** Я толькі два гады працую ў гэтым тэатры.

**— Істотнае ўдакладненне... Галоўныя рэжысёры ў тэатральных калектывах рэспублікі мяняюцца, мякка кажучы, крыху часцей, чым хацелася б. Ці не пашукаць тут прычыну, чаму не адбыўся той ці іншы акцёрскі лёс?**

**В. М.** Катэгарычна не згодзен. Таленавіты акцёр — заўсёды таленавіты. Такая мая пазіцыя... Колькі галоўных змянілася ў Рускім тэатры, ды Аляксандра Клімава, Расціслаў Янкоўскі ўсё роўна сталі народнымі артыстамі СССР, прызнанымі майстрамі. У Аляксандра Ткачонка — я трэці, як мінімум, галоўны рэжысёр. А ён — заслужаны артыст рэспублікі... Доўжыць можна прыклады... Мабыць, не рэжысёрскія індывідуальнасць і суб'ектыўнасць вызначаюць акцёрскі талент, а яго... наяўнасць?

**Э. Г.** Нядаўна на партыйным сходзе тэатра мы аднадушна пагадзіліся на такой вось думцы... Чаму б не паспрабаваць, спачатку ў шэрагу ці ў адным тэатры, перавесці частку трупы на дагаворную сістэму з магчымасцю для кіраўніцтва пераглядаць дагавор штогод на працягу трох гадоў?

**В. М.** Гэта тычылася б акцёраў да рангу заслужанага артыста — крыху больш, чым трэцяй часткі творчага складу.

**Э. Г.** Трэба даказаць сваё права насіць акцёрскую годнасць. Тры гады — дастатковы тэрмін, каб высветліць, ці можа чалавек па творчых і асабістых якасцях працаваць у тэатры. Дагаворная сістэма закранула б не толькі маладых спецыялістаў, але і тых, хто працуе ў тэатры і дзесяць, і пятнаццаць гадоў. У нас з'явілася б магчымасць гарманічна камплектаваць трупу. Сёння тэатру не хапае выканаўцаў узроставых роляў, заўтра сітуацыя зменіцца. Аператыўна рэагаваць на змены мы не можам. Сістэма перавыбрання творчага складу, якая дзейнічае цяпер на правах эксперыменту, сябе не апраўдала. Пагаворым, пагаворым на мастацкім савеце, а як галасаваць — усе мы людзі,— дык чорны шар і не пусцім, перавыберам акцёра яшчэ на пяцігодку.

**В. М.** Падорым яму яшчэ пяць гадоў спакойнага жыцця. І зноў—трупа ўкамплектаваная. Змяніць нешта ў штатным раскладзе самастойна мы не маем права. Напрыклад, тэатру патрэбны сацыёлаг. Хто ведае, можа, сёння менавіта гэтага звяна не хапае паміж тэатрам і гледачом? Знайсці сацыёлага мы можам, залічыць у штат — не. А якім чынам запрасіць спецыяліста па сцэнічнай мове?

**Э. Г.** Альбо для пастаноўкі тэхнічна складанага спектакля — электроншчыка? У штатным раскладзе такіх спецыялістаў няма. Дык і не трэба ўводзіць іх «навечна» — той жа сацыёлаг, магчыма, патрэбны нам гады на два, а электроншчык і зусім на адзін спектакль. На жаль, нельга. «Прапанаваныя абставіны» не дазваляюць. Цесныя рамкі, што і казаць... Усё, літаральна ўсё, трэба ўзгадняць, каб нешта змяніць.

**— А можа, трэба больш дакладна планаваць заўтрашні дзень? Напрыклад, рэпертуар... Цікава, куды знікаюць запланаваныя пастаноўкі? Рускі тэатр БССР абяцаў нам у гэтым годзе «Матухну Кураж» Б. Брэхта, «Балалайкіна і К°» М. Салтыкова-Шчадрына і «Містэрыю-буф» У. Маякоўскага. Ніводнай з гэтых назваў мы на афішы не ўбачым. У бліжэйшы час, ва ўсялякім выпадку. Замест іх — «На дне» М. Горкага і іншыя спектаклі. Чаму?**

**Э. Г.** Таму што рэпертуар плануецца прыблізна гэтаксама, як і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне. У прызначаны час мы прадстаўляем у Міністэрства культуры назвы спектакляў будучага года... Рэпертуарная палітыка — надзвычай важны, калі не галоўны, бок нашай справы. Без перспектыўнага планавання нельга працаваць. Але ж складаць план па **назвах** — на год ці на больш доўгі тэрмін — гэта... Якое б слова знайсці? ..

**(Галоўны рэжысёр пацiснуў плячыма.)**

**Э. Г.** Не зусім рэальна, скажам так. Можна і неабходна планаваць асноўныя напрамкі пошукаў, тэматычную накіраванасць, а не назвы.

**В. М.** Возьмем канкрэтны выпадак... «Містэрыя-буф». Было такое жаданне, я і цяпер хачу ставіць гэты спектакль. Вызначыў яго як «музычную феерыю», а кампазітара-саўтара, на жаль, не знайшоў. Што рабіць? Выпускаць «Містэрыю» толькі таму, што гэтая назва пазначана ў зацверджаным плане? Даруйце, не магу. Не буду.

**Э. Г.** Вось чаму мы сядытады просім міністэрства памяняць нам назву спектакля.

**В. М.** Зноў — просім. Пішам паперы. Выслухоўваем дакоры... А ў чым віна? Чаму гэта не наша ўнутрытэатральная справа? Думаецца, трэба даць магчымасць галоўнаму рэжысёру самастойна выбраць з ліку апублікаваных п'ес твор, які найбольш адпавядае сённяшняму дню, інтарэсам і запатрабаванням гледачоў. Выбраў — паставіў. Калі ласка, прыходзьце, ацэньвайце вынік маёй працы. Вынік! Прымайце альбо не прымайце, толькі мяркуйце на падставе таго, што атрымалася... Цяпер жа спрэчкі, як ні дзіўна, адбываюцца на стадыі зацвярджэння рэпертуару. Чамусьці даводзіцца «прабіваць» ужо апублікаваныя творы. У рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі разглядаюць літаратурныя вартасці п'ес з пазіцыі чытача. Даруйце, але рэжысёраў там няма. Рэжысёры працуюць у тэатры. І яны бачаць не проста літаратурны твор, а спектакль у цэлым — з акцёрамі, музыкай, святлом, касцюмамі. Дык чаму не даць тэатру права самастойна арыентавацца ў дыялогу з гледачом? Гарантую, што мы не пачнём штампаваць танныя шлягеры. Затое вызваляцца ад неабходнасці ставіць рэпертуарныя «птушачкі» — «пра вёску», «пра вытворчасць». Увогуле, як можна дзяліць такім чынам мастацкія творы, што найперш даследуюць духоўны свет чалавека, дзе б ён ні жыў? Тым не менш, мы ўсё яшчэ дзелім... Напрыклад, я з задавальненнем працаваў бы над Шукшыным. Вясковая тэма? Так. Агульначалавечая? Безумоўна. Але прадбачу пярэчанні, бо ў Шукшына няма «спецыфічных» адзнак. Затое безліч п'ес сёння пішацца «з адзнакамі», накшталт такой рэмаркі: «Тырчаць палі, відаць пярэдняя частка трактара».

**Э. Г.** Гэта — «пра вёску». Можна ставіць, ніхто не запярэчыць...

**В. М.** «Прапанаваныя абставіны» для драматургаў, між іншым... Але самае прыкрае, што дзеля «птушачкі» ў тэматычным плане тэатры часам вымушаны браць такія п'есы да пастановак. План зацверджаны, «нумар адбыты»... І раптам з'яўляецца сапраўдны твор — смелы, свежы і на тую ж тэму. Трэба неадкладна ставіць, бо я ведаю, адчуваю — заўтра на п'есу накінуцца ўсе тэатры. Ды такое будзе магчыма толькі ў выпадку нашай самастойнасці. Сёння ж рэпертуарная палітыка надзвычай нягнуткая. Гэтаксама як і іншыя часткі тэатральнага механізму, пра якія мы ўжо казалі. І вельмі хочацца, каб наша гутарка была карыснай. Разумееце, тэатр — прадпрыемства унікальнае. Кампанія людзей апантаных. Усё падпарадкавана адзінай мэце — стварэць мастацтва, патрэбнае сёння. Мы хочам, каб прыходзіў да нас глядач, каб пытаў «лішні білецік», каб чакаў адкрыцця і ўзрушэння. Хочам усе — ад рабочага сцэны да дырэктара. У першую чаргу гэта, канечне ж, залежыць ад таленту — акцёрскага, рэжысёрскага, пісьменніцкага. Але наспела таксама і вострая неабходнасць якасна новых «прапанаваных абставін» — умоў, у якіх існуе тэатр.

**— Дзякуй вам, Эдуард Іванавіч і Валерый Васільевіч, за цікавую, змястоўную і шчырую гутарку!**

●

**Колькі слоў на заканчэнне.**

**Змены, якія адбываюцца ў нашым грамадстве, вымагаюць усебаковага асэнсавання сродкамі сцэнічнага мастацтва. Мы хочам бачыць наш тэатр на стрыжнявых напрамках сучаснасці. Вось чаму надзвычай надзённа паўстаюць сёння пытанні рашучай перабудовы тэатральнай справы як у творчых адносінах, так і ў напрамку ўдасканалення арганізацыйнай структуры.**

**Думкі, меркаванні і канкрэтныя прапановы, якімі падзяліліся дырэктар і галоўны рэжысёр Дзяржаўнага рускага тэатра БССР імя М. Горкага, у пэўнай ступені спрэчныя і нават палемічна завостраныя. Але яны безумоўна заслугоўваюць самай зацікаўленай увагі практыкаў сцэны, спецыялістаў у галіне кіраўніцтва тэатральна-відовішчнымі прадпрыемствамі, шырокага кола тэатральнай грамадскасці.**

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

СТАРОНКА КУЛЬТАСВЕТРАБОТНІКА

Роля клубных устаноў як аднаго з сацыяльных інстытутаў, якія пашыраюць культурна-тэхнічны кругагляд працоўных, як папулярызатара навуковых ведаў, дасягненняў навукі і тэхнікі, вопыту перадавікоў і наватараў вытворчасці, пастаянна ўзрастае. Яскравае пацвярджэнне таму — стварэнне, пачынаючы з красавіка 1978 года, новага, сучаснага тыпу клубнай установы — палацаў або дамоў культуры і тэхнікі. Цяпер у краіне функцыяніруе каля паўтары сотні ДКіТ, у Беларусі — чатыры: у Мінску, Гомелі, Магілёве і Баранавічах.

# АЎКЦЫЁН НАЗЫВАЕ ПЕРАМОЖЦАЎ

У чым жа асаблівасці работы гэтых культсветустаноў? Калі сцісла, то галоўнай вызначальнай рысай можна назваць рэальную магчымасць арганізаваць планамерную, сістэматычную прапаганду эканамічнай і навукова-тэхнічнай палітыкі КПСС, магчымасць актыўна спрыяць развіццю сацыялістычнага спаборніцтва, узаемадзейнічаць з пярвічнымі арганізацыямі таварыства «Веды», НТА, УАВР і аддзеламі навукова-тэхнічнай інфармацыі, праяўляць клопат аб самадзейнай тэхнічнай творчасці працоўных. З гэтай мэтай пры ДКіТ створаны спецыялізаваныя аддзелы навукова-тэхнічнай прапаганды, якія маюць адпаведныя штаты спецыялістаў і матэрыяльную базу.

Творчы пошук прывёў культасветработнікаў да новых клубных форм навукова-інфармацыйнай дзейнасці. У шэрагу клубных устаноў пачалі праводзіцца цыклавыя мерапрыемствы, прысвечаныя вырашэнню важных вытворчых пытанняў. Добрым прыкладам тут з'яўляецца вопыт ДКіТ Першаўральскага наватрубнага завода, які на працягу некалькіх гадоў аказвае істотную дапамогу вытворчасці ў рэканструкцыі буйнейшых у краіне трубапракатных агрэгатаў. Горкаўскі ДКіТ чыгуначнікаў практыкуе правядзенне прэс-канферэнцый, тэмамі якіх становяцца актуальныя вытворчыя пытанні. Ускрываюцца прычыны недавыканання планавых заданняў, зрыву паставак, дрэннай каардынацыі падраздзяленняў прадпрыемства.

У апошні час работа клубных устаноў па навукова-тэхнічнай прапагандзе ўзбагацілася.

Скажам, тэхнічныя аўкцыёны ўсё смялей і часцей сталі заваёўваць сцэны клубных устаноў нашай рэспублікі. Пабываем на адным з іх.

Вялікая, на 1050 месцаў глядзельная зала Палаца культуры і тэхнікі Магілёўскага вытворчага аб'яднання «Хімвалакно» імя У. І. Леніна была перапоўнена. Сюды прыйшлі рацыяналізатары і вынаходнікі (іх у аб'яднанні каля шасці з палавінай тысяч — кожны дзесяты работнік), перадавікі і наватары вытворчасці, аматары тэхнічнай творчасці, усе, хто дбае пра развіццё навукі і тэхнікі.

Гучаць пазыўныя «Аўкцыён-85».

На сцэне з'яўляецца Бакалаўр з асістэнтамі, які зачытвае сімвалічны ўказ аб зацвярджэнні штогадовага свята навукі і ведаў пад назвай «Аўкцыён».

Сваё месца займае кампетэнтнае журы з прадстаўнікоў камітэта прафсаюза, Савета УАВР, галоўных спецыялістаў на чале з галоўным інжынерам аб'яднання В. Буткіным.

— Тэхнічны аўкцыён, — сказаў Вячаслаў Цімафеевіч, — праводзіцца з мэтай далейшага развіцця навукова-тэхнічнай творчасці працоўных аб'яднання, павышэння тэхнічнай актыўнасці ў галіне рацыяналізацыі і вынаходніцтва.

Далей — конкурс, які праводзіўся ў захапляючай, ігравой форме ў тры туры. Пытанні першага тура звязаны з гісторыяй стварэння і развіцця аб'яднання. У другім туры пытанні мелі выразную вытворчую накіраванасць і былі звязаны з канкрэтнымі ўмовамі работы аб'яднання. І нарэшце, трэці тур — асноўны. Калі пытанні двух першых тураў не патрабавалі папярэдняй падрыхтоўкі, то пытанні трэцяга тура былі загадзя апублікаваны ў шматтыражнай газеце аб'яднання «Трудовая слава». Пры гэтым меркавалася прадставіць дакладныя тэхнічныя распрацоўкі або раскрыць прынцып вырашэння праблемы, указвалася мяркуемая эканомія ў грашовым вымярэнні або іншы станоўчы эфект у выпадку паспяховай абароны (куплі) ідэі на аўкцыёне і ўкаранення яе ў вытворчасць.

Аўкцыён назваў пераможцаў. Яны атрымалі дыпломы і каштоўныя падарункі. Эканамічны эфект ад рацыяналізатарскіх прапаноў, «закупленых» на аўкцыёне, па папярэдніх падліках складае каля 60 тысяч рублёў. Але, відаць, нават не гэтая ўнушальная лічба — галоўны вынік клубнай акцыі. Думаецца, галоўны эфект — выхаваўчы, прапагандысцкі: працаўнікі аб'яднання «Хімвалакно», якія пабывалі ў той вечар у Доме культуры і тэхнікі, пашырылі свой кругагляд.



«Аўкцыён-85» у Доме культуры і тэхнікі Магілёўскага вытворчага аб'яднання «Хімвалакно».

Вядома, цудаў не бывае. І адно клубнае мерапрыемства, якое б яно ні было цікавае, змястоўнае і захапляючае, не ў стане вырашыць сур'ёзныя вытворчыя задачы. Гаворка ідзе пра сістэму, планамерную і мэтанакіраваную. І такая сістэма навукова-прапагандысцкай дзейнасці ў Доме культуры і тэхнікі Магілёўскага вытворчага аб'яднання «Хімвалакно» складаецца. У Палацы сумесна з саветам УАВР арганізавана 6 школ маладога рацыяналізатара, працуе народны універсітэт тэхніка-эканамічных ведаў, праводзяцца Дні наватара.

Асаблівы клопат аддзела навукова-тэхнічнай прапаганды Палаца — арганізацыя працы на вытворчасці. Цікава праходзіць цыкл тэматычных вечароў пад рубрыкай «Як жывеш, брыгада?», на якіх абмяркоўваюцца пытанні ўплыву брыгаднай формы працы на псіхалагічны клімат калектыву, удзелу членаў брыгады ў тэхнічнай творчасці, адносіны да брыгаднай формы аплаты працы і г. д. Асабліва ўдалым аказаўся вечар сустрэчы з брыгадай завода запасных частак, якой кіруе Зінаіда Мікалаеўна Мамохіна.

Вядома, было б няправільным сцвярджаць, што ўвесь гэты вялікі, цяжкі для аналізу аб'ём мерапрыемстваў навукова-тэхнічнай накіраванасці выконвае толькі Палац культуры і тэхнікі. Клубныя прапагандысты працуюць у цесным кантакце з аддзеламі навукова-тэхнічнай інфармацыі аб'яднання, новай тэхнікі, НТА, таварыства «Веды», тэхнічнай бібліятэкай.

— І такі шлях, — лічыць намеснік дырэктара Палаца па навукова-тэхнічнай прапагандзе Людміла Аляксандраўна Пастушанка, — найбольш перспектыўны і аптымальны. — І працягвае: — Толькі ў цесным узаемадзеянні з названымі таварыствамі і арганізацыямі клубная ўстанова можа сказаць сваё слова ў навукова-тэхнічнай прапагандзе.

**А. САКАЛОЎ,**
**старшы выкладчык Мінскага інстытута культуры, кандыдат педагагічных навук.**

